АНТОН БЯЛЕВІЧ

# Сосны ў жыце

ВЕРШЫ І ПАЭМЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

# ЖЫВЫ НЯТЛЕННАЙ ПРАЦЫ ПЛЁН

Выдатны беларускі паэт Антон Пятровіч Бялевіч быў верным сынам і песняром Радзімы, з якой на ўсё жыццё звязаў свой лёс, свае шляхі-дарогі і да апошняга дня служыў ёй усім сэрцам, шчырымі, гарачымі пачуццямі.

Творчасць Антона Бялевіча вядома шырокаму колу чытачоў не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. На яго творчым рахунку больш трыццаці кніг паэзіі і мастацкай прозы, якія выходзілі на беларускай і рускай мовах. Асобныя творы друкаваліся ў другіх рэспубліках і ў братніх сацыялістычных краінах. Шырока вядомы яго паэмы «Мой майстра», «Сям'я», «Ідзі, мой сын!», «Васіль Вашчыла» і іншыя. Яны сталі здабыткам не толькі беларускай, але і ўсёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

Выдатнай з'явай стала кніга Антона Бялевіча «Чарадзеі», у якой змешчаны артыкулы, творчыя партрэты, успаміны пра народных паэтаў Беларусі Янку Купалу, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, класіка беларускай прозы Кузьму Чорнага, пра цудоўных майстроў рускай паэзіі Аляксандра Твардоўскага, Мікалая Асеева, Аляксандра Пракоф'ева і іншых сучасных пісьменнікаў. У гэтай кнізе Антон Бялевіч выказаў не толькі свае асабістыя ўражанні аб сустрэчах з тымі, каго ён блізка ведаў, з кім творча сябраваў, але і даў глыбокі аналіз іх творчасці, іх высокай грамадзянскай адказнасці перад сваім народам.

Усё, пра што б ні пісаў Антон Пятровіч,— пра сваю родную Дуброўку ці пра партызанскую маці Маланню, пра герояў нашых працоўных будняў ці пра пякучы боль Хатыні,— усё было звязана з гераічнай гісторыяй нашага народа, з яго доляй.

У прадмове да сваёй кнігі выбранай лірыкі «Высокі поўдзень» Антон Бялевіч пісаў:

«Зборніку маіх лірычных вершаў я даў назву «Высокі поўдзень» не толькі з той прычыны, што сёлета спаўняецца мне паўвека, што пяцідзесяты май уздымае нада мною ў небе жаваранкаў, а яшчэ і таму, што высокі поўдзень маёй сталасці яснымі промнямі асвятляе мой шлях у далячынь, на той запавет-

ны берag нашага шчасця, куды ідзём вялікім паходам, пад сцягам Кастрычніка, дарогай Леніна».

У гэтых словах, як і ва ўсёй творчасці Антона Бялевіча, выказана яго паэтычнае і грамадзянскае крэда — і словам і справай да канца служыць нашай рэвалюцыі, справе партыі вялікага Леніна, справе сацыялістычнай Радзімы.

Сэрца людское падуладна часу. Але плён творчай працы паэта нятленны. Ён жыве ў кожным яго слове, у кожнай песні.

Прыгадваюцца радкі з цудоўнага верша Антона Бялевіча «Люблю жыццё»:

Праб'юся зноў у той лагчыне,
Зноў учаплюся за зямлю.
Пад небам роднае Айчыны
Любіў, люблю, не разлюблю.

Жыццё і ўсе яго вытокі
Кахання, радасці, падзей.
Люблю жыццё, яго высокі
Святы закон і ўзлёт людзей.

Аўтар гэтых радкоў сам быў у няспынным палёце, у пошуках і здабытках багатага творчага плёну. Да апошняй сваёй хвіліны ён нястомна працаваў, любіў жыццё, любіў людзей, свой народ, Радзіму. І такі ён для нас застанецца назаўсёды.

Мне пашчасціла сябраваць і працаваць з Антонам Бялевічам на працягу многіх гадоў, яшчэ з даваеннай пары. Бялевіч для многіх з нас быў заўсёды чулым таварышам, шчырым сябрам, родным братам, які мог дапамагчы не толькі слушнай заўвагай, карыснай парадай, а і сваім багатым творчым вопытам.

Бываюць у нашым жыцці вялікія святы, радасныя працоўныя будні, але ёсць і віхуры, нягоды, якія трэба пераадольваць, з якімі трэба змагацца. І ў гэтым змаганні лепшым сябрам, байцом для нас будзе паэзія Антона Бялевіча. На творчым шляху паэта-песняра вечна будзе свяціць сонца, высокі поўдзень чалавечай сталасці, чырвань нашага сцяга.

Новая, і на жаль апошняя, кніга паэзіі Антона Бялевіча, падрыхтаваная да друку ім самім,— яркая кветка ў рамонкавым лузе беларускай паэзіі.

*Пятро Прыходзька*

## СОСНЫ Ў ЖЫЦЕ

Жыта, жыта...
Шумяць каласы.
Слухай скаргу даспелага жыта:
— Ні касца, ні жняі,
Ні сярпа, ні касы,
Я і людам і богам забыта.
У нудзе,
У бядзе
Плача доля мая,
Не дайсці мне да роднае вёскі,
Я пад вартай стаю,
Арыштована я
Гарнізонам нямецкага войска.
Пад прыцэлам стаю.
Дзень і ноч на мяне
Пазіраюць з байніц кулямёты.
Хлебадараў сваіх
У сваёй старане
Я не ўсцешу цяжкім умалотам.
Хоча вораг мой хлеб
Па чыгунцы ў вагонах павезці.
Хай бы ён спруцянеў,
Хай бы, прагны, аслеп,
Каб не мог і кавалачка з'есці.

Дзе касец і жняя?
Час на жніва вам, родныя вёскі.
У палоне стаю.
Арыштована я...
Пакасіце варожае войска!..

Сосны слухаюць скаргу-нуду,
І галініцца гора ў галінах,

І трымаюць жальбу і бяду
Сосны там на прыгорбленых спінах.

І яны ж на вайне,
І яны ж у бядзе,
У вялікай самоце, у скрусе...
Сосны, сосны мае!
Горка, цяжка і мне...
Смутак ляжа ў труне!
Па маёй старане
Перамога ідзе,
У магілы кладзе
Гора роднае Беларусі!

На Берлін, на рэйхстаг
Нас вядзе родны сцяг,
Акрыляючы нашыя сілы...
У лугах і лясах
На варожых касцях
Заімшэлі, счарнелі магілы.

А наш лёс
Да нябёс
Зноў падрос,
Зноў узнёс
Акрылёную нашую славу.
Песняй ніў і бяроз
І душой ахінаю дзяржаву!

## Я ВЯСЁЛКАЙ АПРАНУЎСЯ

Дуброўка — родная калыска
Маіх дзіцячых, даўніх дзён,
Табе мой шчыры, самы нізкі,
Сяброўка мілая, паклон!

Мяне юнацтва выпраўляла
З бацькоўскай хаты за парог.
Пражыў на свеце я нямала,
Нямала пройдзена дарог.

Я вам удзячны, пабрацімы,
Паклон вам нізкі, да зямлі;
Табе, любімая радзіма,
Табе, сцяг родны на Крамлі!

Маю любоў, маю павагу
Да вас у сэрцы зберагу.
Пакуль на могілках не лягу —
Датуль забыць вас не змагу.

А памяць сцежачкаю зноўку
У кут бацькоўскі прывяла.
Любіў, люблю маю Дуброўку,
Якая ёсць, якой была.

Была апранутая ў лозы,
У ельнікі ды ў сасннякі.
А салаўіныя бярозы
Ля Шачы — вузенькай ракі —
Звінелі,
Пелі
Кожны вечар.

А з тых бяляначак-бяроз
Нёс у Дуброўку песні вецер,
У сэрца мне шаноўна нёс;

Увосень смутак жураўліны
Даносіў з рыжых імшарын,
Дзе чырванелі журавіны,
Пабраўшы колер у калін;

Дзе качанят хавала Шача,
Расціла сокіка ў вадзе...
Ах, пастарэў мой свет юначы,
А родны кут памаладзеў.

Няма шалёнага балота,
Яно прытулку не дае
Нудзе іржавай між чароту —
Пшаніца спелая пяе!..

Дуброўка — родная калыска
Маіх дзіцячых, даўніх дзён:
Табе мой шчыры, самы нізкі
Паклон!
— Прымаю твой паклон!..—

Сказала мне яна прачула.
Каго ж такое не кране?..
Сваёй вясёлкай апранула
Дуброўка родная мяне!

## СПАТКАННЕ З ЮНАЦТВАМ

Нехта клямкаю паляскаў...
Пагляджу, праверу.
— Хто там?
Кажа: — Калі ласка,
Адчыні мне дзверы.

Сінявокі, кучаравы,
Вельмі зухаваты...
— Ну, заходзь,
як маеш справу,—
Запрашаю ў хату.

Усміхнуўся светлалобы:
— Ды прыйшоў прызнацца:
Ты і я — адна асоба,
Я — тваё юнацтва.
Пазнаеш?
Прайшло нямала
Часу з маладосці...

Быў я рады:
завітала
Маладосць у госці!

Узляціць ён к сонцу першы,
Як шпак на бярозу.
Не стамілі ж яго вершы,
Не стаміла проза.

І ваенная дарога,
Яшчэ вельмі маладога,
Не магла дазвацца...

Каля роднага парога
Я абняў юнацтва.

Хай бы гэтае спатканне
Ў яве адбылося.
А чаму ж?
Яшчэ не вяне
Даспелая восень!

# ХАЙ БЫ ЯВАЙ СТАЎ СОН

На світанку я чую
Салаўя на вярбе.
А дзе сонца начуе,
Дзе хавае сябе?

Пад бярэзінай роснай,
Можа, спіць у капе?
Бег туды, недарослік,
Слухаў: можа, сапе?

Не сапло яно ў сене,
Там яго не было.
Ад капы, з прыгумення,
Я пабег за сяло.

— Пакажыся! —
Гукаю,—
Мне прамень падары!..
А яно ўжо над гаем,
А яно на двары...

— Я таго абдымаю,
Хто ўстае на зары! —
Шчыра сонца сказала
Ля капы, на гумне;
Абняло, цалавала,
Несла ў неба мяне.

Ад вярбы кучаравай —
Вецер мне наўздагон...
А няхай бы стаў явай
Недаросліка сон!

На даліны, на ўзгоркі,
На сады, гарады —
Промні сонца і зоркі
Асыпаў бы тады,
Каб жыццё абнялося
Шчыра з лёсам сваім.
Салавей мой і ўвосень
Пеў бы ў сэрцы маім.

## А ЧАМУ ЗРАСЛАСЯ КЛАДКА?

І не роўна, і не гладка
Іх дарожка павяла.
Як гавораць, тая кладка
Ўжо надломлена была
Цераз рэчаньку на бераг,
На зялёны муражок.
Ён ёй верыў і не верыў:
Ці не стаў ёй кавалерам
Яго даўнішні дружок?

— Ну, бывай!
Пайду, другога,
Маладога ўжо бяры.
— Мне не трэба маладога,
Сам яшчэ ты не стары.

Гаварыла жонка мужу,
Гладзіла яго руку...
— А чаму ж? Яшчэ я дужы!
Хочаш — дроў прывалаку.

Прывалок, угнуўшы плечы,
Распаліў у печы сам.
На патэльні скваркі ў печы,
А таксама кілбаса
Засквірчэлі.
Зружавелі
На патэльнях ім бліны.
— Сядзем?
— Сядзем!..
Дружна селі
За гасцінны стол яны.

— Вып'еш чарку?
— Вып'ю чарку!..
Зашумела ў ёй віно.
Ён сказаў: — Утопім сварку!
І ўтапілі! І даўно
Не жыве ў іх доме звадка,
Д'яблу спрэчку аддала.
І зраслася тая кладка,
Што надломленай была.

Цераз рэчаньку на бераг
Пераводзіць кладка зноў.
І не ў чарачку я веру,
А ў сардэчную любоў.

## ВЯСНОВАЯ СПРЭЧКА

Вясна дыхнула —
Ўскалыхнула
Дарогу санную на лёдзе.
Рака прачнулася, гукнула:
— Зіма на пенсію выходзіць!

А лёд трашчаў:
— Яшчэ марозік
Шыкуе белымі вусамі;
Яшчэ з марозікам павозім
Абутыя ў жалеза сані!

Пачула сонца тую спрэчку,
Сказала:
— Я зраблю пагоду!..
Зламала лёд, пагнала рэчку
Пад крыгамі старога лёду.

А ён скрыпеў, трашчаў сурова:
— Жалезны я!..
Вясна сказала:
— Маўчы, траскун! Мая дуброва
У гнёзды птушак пагукала.

Заглох бунтар!
Панесла рэчка
Сасулькі лёдзіку. Ён — ціхі...
Гадуе цёплае гняздзечка
Маленькіх дзетак салаўіхі.

А салавей дапамагае
Сваёю песняю сардэчнай...

Духмяны,
цёплы вецер з гаю
Прагнаў вясны
і лёду спрэчку.
А я плыву, я абдымаю
Між берагоў зялёных рэчку.

Яна напоіць у спякоту
Тады,
як жыта закрасуе;
За нашу добрую работу
Чаротам рэчка галасуе.

2 Зак. 643

## ЗГАВАРЫЛІСЯ — ЗАРУЧЫЛІСЯ

— А чаму ж ты тады
Не прыходзіў, шэльма,
Калі быў малады,
Быў прывабны вельмі.

— А цяпер?
— Ты цяпер —
Ні рыба ні мяса!
— Дык жа я кавалер
Найпершага класа!
Хоць сівы, хоць стары,
А яшчэ здаровы.
— Дык цябе ж камары
Затаптаць гатовы!
— Камары?
— Далібог!
Ну, бывай, саколік!
— А ў мяне грошай стог.
— Высокі?
— Да столі!
— А няўжо?
— Ты правер,
Памацай рукою.
— Стаць гатова цяпер
Жонкаю тваёю!

На вяселлі народ.
Загудзеў карагод,
Як заўжды вялося,
Толькі з чаркі ў мой рот
Віно не лілося.

## СІЛУ ЛЕС ЯМУ ДАЕ

І сцяжынку, і дарожку
Пратаптаў ён у бары...
Пад вярбой, на сумным ложку,
Паміраў ляснік стары.

Да яго прыйшлі суседзі,
І ляснік прыйшоў другі.
Кажа:
        — Ўстань, у лес паедзем.
Падымайся, дарагі.

Спахмурнелі ўжо мядзведзі
Ад пажоўклае тугі.
Там хваіна і яліна
Ўсохне ад нуды-бяды...

— Дык чакае ж дамавіна,
Хай плыве ў труне туды.

— Хто там?
                Чую лесагуба.
Ты чаго тут, ягамосць?
Не, яшчэ не даў я дуба,
Пажыву табе на злосць!

Ён падняўся ціха з ложку,
Кволенькі,
                сівы,
                    стары.
— І сцяжынку, і дарожку
Пратапчу яшчэ ў бары.

Запрагай!

У лес паедзем!..

Пакацілі ад сяла!
Гаварыў сусед суседзям:
— Сілу злосць яму дала.

А другі інакш мяркуе,
Робіць вывады свае:
— Добра лес даўно вартуе,
А таму ён і ратуе,
Сілу лес яму дае.

# ЖУРАЎЛІХА-ХЛУСІХА

— Дай мне, поле, канапель,
А ў прыдачу проса.
— Дам! А дзе твой журавель?
Лодыр даўганосы?
— Пакалечыў жа крыло,
Дрыхне за лясамі...

Поле проса ёй дало,
Канапель таксама.

Журавўліха па плячу
Крыльмі гладзіць поле,
Кажа: — Дзякуй! Палячу,
Недарэку палячу,
Кончыцца ад болю.

Поле кажа: — Мой паклон
Перадай калеку.
— Дзякуй, поле! Будзе ён
Друг табе навекі!..

Плыў туман у хмызнякі,
А з кустоў, ад рэчкі,
Прыляцелі дружбакі —
Журавы на грэчку.

У чародцы журавель —
Лодыр даўганосы...
Поле кажа: — Канапель,
А таксама проса
Жораву твайму дало?
Сорам, жураўліха!..

Зашумела, загуло,
Жураўлёў яно змяло,
Стала ціха, ціха.

Не ляціце, журавы,
На проса, на грэчку!
Вам балота й паплавы,
І кусты ля рэчкі.

# ДОБРЫ ЛОСЬ

Цяля адбілася ад статку,
Бяжыць наўпрост абы-куды.
Пытае лось: — Шукаеш матку?
— Ага!.. Тут лес. Адны хлуды.

А лось — адно, другое вуха
Падставіў ветру, доўга слухаў,
Цялушку рогам ён пачухаў,
Сказаў: — Хадзем! Я правяду,
Знайду ў дуброве чараду...

Ідзе! Вядзе! Прывёў цялушку
У вербалознік да кароў.
Пытае лось: — Чыя дачушка?
— А не мая! —
Бугай зароў.—
Было вяселле напрадвесні,
А не гуляў тады там я,
Яна — другога бугая...
А лось: — Маўчы! Рагамі трэсну!
Чыя дачка?
— Мая, мая! —
Схавала цёмная дуброва
Дачку. Не выбіцца з лясоў.
А лось сказаў: — Ах ты, карова!
Вучыся шчырасці ў ласёў!

Пайшоў назад сваёй сцяжынкай
У лес пад шолахі асін.
Пашана шчырасці ласінай,
Няхай гадуюцца ласі!

# ПЯРУН

У яго натура ўжо такая:
Як бугай раз'юшаны раве!
З хмары ён маланкі выкрасае,
Апякае зябліка ў траве.

Стукне, грукне — стане на калені,
Скалануўшы чуб,
Магутны дуб.
Іскры высякаючы з каменняў,
Гікае пярун, як душагуб!

Пастушок схаваецца ў разору
Ці зацiснецца ў лахматы мох.
Уцякла б сасна старая з бору —
Не было ў сасны ніколі ног.

А на слупе сіла ёсць такая:
Драцяная, хітрая яна.
Перуна да слупа пагукае
Ды ў зямлю адправіць перуна!

Не раві, не грукай капытамі,
Як бугай раз'юшаны, пярун!
Самі, як гаворыцца, з вусамі,
Не заглушыш нашых добрых струн.

## ПЕСНЯ ЖНЯІ

Ранenька на поплаве я расой умылася,
Я пайшла на поле лугавой сцяжынкаю,
А мне ў полі жыта нізка пакланілася —
Павітала жыцейка добрымі зажынкамі.

Цалавала сонца рукі мае шчырыя,
З раніцы да вечара да мяне тулілася.
А дабро ў свіронкі паляцела выраем,
А дабро са мною моцна заручылася.

Добры вечар, сонца!
Добрай ночы, зорачкі!
Я пайду дадому лугавой сцяжынкаю.
Падрастуць да столі жыта майго горачкі,—
Шчырае «бывайце» дам тады дажынкам я.

З печы цёплы бохан хлеба пагукаю:
— На мой стол кладзіся!
Засланкай паляскаю...
Поле маё, поле! Цябе абдымаю,
Цябе атуляю хлебаробскай ласкаю.

## А Ў ПОЛІ САСНА

Зажурылася ў полі сасна.
Разумею нуду сіраціны:
Салаўёў не прыслала вясна
На старыя, крывыя галіны.

Ёй зязюля не скажа:
— Ку-ку.
Не клякоча ёй бусел цыбаты.
Чорны воран прысеў на суку,
Закартавіў, зіркаты, хрыпата:

— Не заві, не чакай салаўя,
Салавей падружыўся з вярбою.
Не гаруй! Буду пець табе я.
— Захлыніся ты песняй сваёю!

Ад цябе б уцякла ў сасннякі,
Хвоя кожная ў лесе гукае,
Толькі тут мне пяюць жаўрукі,
Толькі поле мяне не пускае.

— А навошта ты полю? Скажы!..
Адказалі галіны, галінкі:
— Пад сасной, на зялёнай мяжы,
Заспяваюць зажынкі, дажынкі.

Будуць слухаць і поле, і гай,
І ў бары меднаствольныя сосны...
Закартавіў зноў воран: — Тр-ры-вай!..
У кару стукнуў дзюбаю злосна.

Зашумеў, паляцеў ад сасны
У кусты, у лясныя зацішкі.



4

А сасна да зімы ад вясны
Для вавёрак даспельвае шышкі.

Яна дзятла за стол пазаве:
— Пакарміся і ты, вострадзюбы!..
Так у полі сасна і жыве,
І шануюць яе лесарубы.



# ХІТРЫ ЗАЯЦ

Загукала сава,
Пачала хваліцца:
— Уга-га! Я сама
Начная царыца!
Больш такой не знайсці,
Лесу я па густу.
Прыбягайце, зайцы,
На маю капусту!
Кожны тут пад'ясі,
Пахваліш вячэру.
— А маркоўку дасі? —
Запытаўся шэры,
Хітры заяц стары,
Вопытны гуляка.—
Хай самой камары
Ў ступе стаўкуць маку!
Хай капуста жыве,
Капустай не купіш!..
Той зіркатай саве
Паказаў ён кукіш.

Паказаў! І папёр,
У хмызняк ускочыў.
Не сава — цёмны бор
Рагатаў уночы:

— У савы галава
Поўная мякіны!..

Долу ўпала сава
З колкае галіны.

## АЖАНІЎСЯ МАРОЗІК

Вавёрка спелыя арэхі
Схавала хітранька ў дупле,
А восень скарбы ўсе пад стрэхі
Паклала ў свірнах у сяле.

Яна марозіка гукае:
— Э-гэ-й! Ідзі! Марудзіш ты!
Жаніцьба нашая чакае.
Ідзі са снежнем у сваты.
Згуляем добра мы вяселле...
— Іду!..—
Папстрыкаў на двары.
За стол паселі.
Ім запелі
З бярозы белай снегіры:
— Гуляй, марозік, да прадвесня!
І нам жа восень хлеб дала...

Стаяў і слухаў тую песню —
У верш мой песня заплыла.

## ПРЫЗНАННЕ Ў ВЕРНАСЦІ

Дарогамі — блізкаю, дальняй,
Іду, ахінуўшыся ў вецер.
Яшчэ не настаў развітальны,
Засмужаны хмараю вечар.

Не поўдзень, але і не поўнач
Майго пасталелага веку.
І сонца, і зоркі, і поўня
Мне свецяць. А што чалавеку
Ў дадатак да гэтага трэба?
Хіба што хоць крыху натхнення
Ды луста заечага хлеба,
Ды клопатаў добрая жменя.

Здаецца, усё гэта маю,
Не трапіў яшчэ ў небяспеку.
Я сувязь жывую трымаю
З падзеямі нашага веку.

Нудоты, журботы слязіну
Гатовы я шчырасцю сцерці.
Памру, а Радзіме пакіну
Жывыя праменьчыкі сэрца.

Няхай не пагаснуць ніколі
У сэрцах маіх пабрацімаў.
Не трэба мне іншае долі,
Не трэба мне лепшай Радзімы.

# ГАРМАНІСТ

Пад старою ліпаю
Ён прысеў на лавачку,
А гармонік рыпае,
Ён заве каханачку.

— Прыбягай хутчэй! —
Басы
Гучна ўтораць тэнарам.
Адгукнуліся лясы
Шэрымі цяцерамі:

— Ты чаму сагнуўся ў крук
Злядашчэлым конікам?
Цецярук ты, цецярук,
Ды яшчэ з гармонікам!

Адгукнуўся беразняк
Песняй салаўінаю:
— Не сядзі! Бяжы, дзівак,
Спаткацца з дзяўчынаю.

А ўжо выпіла расу
З ліпы сонца яркае.
— Пра-вароніш ты кра-су! —
Воран яму каркае.

Гарманіст пабег, прыбег,
Перад ёй укленчыў ён.
Як гавораць, смех і грэх:
Дзеўчына абвенчана!

Пад старою ліпаю
Зноў прысеў на лавачку.

Толькі ўжо не рыпае,
Не заве каханачку.

Не ляжыць к гармоніку
Сэрца набалелае...
Ах, даелі конікі
Канюшыну спелую!

## РЭЧКА СПЫНІЛА СПРЭЧКУ

Зашумела дуброва:
— Выклікаю вясну!
Парыкала карова:
— Хопіць зімняга сну!
Дай траву, лугавіна,
Я іду за сяло.
— А яшчэ жураўлінай
Песні тут не было.
— Мне не трэба іх песня,
Трэба мне мурава.
— Першы громік хай трэсне,—
Дык падскочыць трава;
Гром пагрукае ў бубен,
На траву пазаве.
— Што ж? Пакласці мне зубы
Пад страхой у хляве?
Разгарэлася спрэчка
Не на жарт, усур'ёз.
— Хопіць! — кажа ім рэчка.—
Мой зацьвіў вербалоз.
Кліча ён жураўліны
Пералёт да сябе...
І маўчыць лугавіна,
І карова скубе
Маладзенькую траўку,
Што не ўхопіш касой.
Хай ідзе на папраўку
Траўка з першай расой!
Малака дасць карова,
З кубкаў вып'еце вы...
Пагукала дуброва:
— Добры дзень, журавы!

# ЖОНКА МУЖА ЧАКАЛА

Ён жыве ці не жыве?
Дзе, лайдак, блукае?
А хто ж мяне пазаве,
А хто ж пагукае
Зажынаць і дажынаць
Даспелае жыта?
Прачакала тыдняў пяць,
Дзе ж ён, валакіта?
Адлучаўся на дзянёк,
Дзе ён прападае?
Мо прыліпнуў да дзявок?
Сама ж маладая!

І люстэрачка ўзяла,
Сябе паглядзела.
— Ну, такая ж, як была,
Я ж не пастарэла.
Акуратненькі насок,
Васілёчкі — вочы.
Толькі белы валасок
У касу мне ўскочыў.
Праганю яго з касы,
Гэта ж лёгка вельмі.
— Не калеч мае красы,
Пасівелы шэльма!

Волас вырвала: — Акыш! —
Выгнала на дворык...
Муж у хату: — Ты не спіш
Да світальных зорак?
Узлавалася яна,
Злосць дала ёй сілу.
— Хай бы ўжо мяне труна
Занесла ў магілу!

— Што з табою?..
— Не, дазволь
Выказацца ўволю.
Дзе ты быў?
— Шукаў я соль.
— Дакапаўся солі?
— Дакапаўся! Рады я.
Солі ў нетрах многа.
Чуеш, родная мая?..

Мужа дарагога
Прыхінула, абняла.
— Што з табой, Параска?
— Твая соль мне аддала
Шчырасць твае ласкі!

Зноў люстэрачка ўзяла,
Сябе паглядзела:
— Ну такая ж, як была,
Я ж не пастарэла!

# ВЕРНАСЦЬ ЛЕБЯДЗІНАЯ

Як памрэ знянацку лебядзіха,—
Лебедзі зажурацца не ўсе.
Той, адзіны, гора ціха-ціха
Да нябёс на крылах панясе.

Ён шчымліва ў небе пагалосіць
У вялікім смутку, у бядзе.
На траву, ці ў полі на калоссі,
Ці на камень камнем упадзе.

Упадзе! Не знойдзеце магілы.
Крыламі накрыўся ціха ён.
Хай бы вернасць гэтакае сілы
Ў кожнага была да скону дзён.

# ВЯСНОВАЯ ПЕРАКЛІЧКА

Люты лютуе, марозіць,
Заснежаны, беленькі.
Сакавік яшчэ ў абозе,
Затрымаўся ў ельніку.

Сакавік прышпорыў сані,
Сані лёгка коцяцца.
З беларускімі лясамі
Прывітацца хочацца.

А таму ён і гукае
З дальняга марозіку:
— Прывітанне, бела-гаю!
Соку дай, бярозанька!

Даплылі ў бярэзнік сані,
Сталі дрэвам кланяцца...
— А мы самі ўжо з вусамі! —
Бярэзінкі хваляцца.

На галінах паказалі
Коцікавы трубачкі.
Сакавік: — А, можа б, далі
Соку мне, галубачкі?

Шэпчуць коцікі бярозаў
Тоненька ды кволенька:
— Трэба даць! Прагнаў марозы,
Нам прынёс ён сонейка.

Весняй песняй жаўруковай
Адчыніў нам весніцы!..

Пад бярозаю вясновай
Сакавік папесціўся,
Зноў падняўся ды гукае:
— Красавік! Я сівенькі.
Пагукай ты Першамая.
— Пагукаю, міленькі!

Май гукае: — Сенакосы,
Даспявайце скоранька!..
Атуляюць нас нябёсы
Пяшчотаю сонейка.

# РАЗМОВА З ПАЭТАМ

*Петрусю Броўку*

Кажу я: — Не трэба журыцца:
Акрылены сілы твае,
Твая чараўніца-крыніца
Жывое натхненне дае.

— А трэба мне поўная рэчка,
Яе глыбіня і напор.
Крыху заімшэла гняздзечка,
Дзе вывеўся першы мой твор.

— А твор твой жыве, не загінуў,
А крыж не сумуе над ім.
Уцеху і радасць пакінуў
Твой першанькі ў сэрцы маім.

Гаворыць ён: — Гэтага мала.
Ты ўсё пра мяне, пра сябе!
Мне трэба, каб ветразем стала
Натхненне маё ў барацьбе
За праўду высокага зместу,
Каб сонцам тварэнне было,
Каб з нашай граніцы ад Брэсту
Сусвету руку падало!

Пытаю: — А ў чым жа загвоздка?
Працягвай сусвету руку!
Адказваў: — Даспела палоска.
Вядома, табе, дзіваку?

На гэтым спынілася спрэчка,
Сказаў яму: — Будзь жа здароў!
Яшчэ і старое гняздзечка
Народзіць радкоў-песняроў.

Яшчэ не сышоўся свет клінам.
І хоць пасівелі гады —
Твая не пажухла каліна,
Твае не пажоўклі сады.

Яшчэ ты ці позна, ці рана,
Ці сонейка захад, ці ўсход —
Шчыруеш, працуеш старанна,
Натхненне вядзеш у паход.

Сказаў ён: — Яшчэ пашчырую,
Радкамі вясну ўскалышу!..
Ягоную кнігу бяру я,
А кніга бярэ за душу.

## ПРЫЗНАННІ ЮНАКА

Да цябе любоў не стыне,
Я даўно тваю красу,
Як высокую святыню,
У душы сваёй нясу.
Забяру твае дакукі,
Не зажмурыць ні адна.
Мае ўвішненькія рукі,
Нібы хобат у слана.
Як у зайца, мае ногі
Пераскочаць праз бяду.
Перашкоды — прэч з дарогі!
Сваю мілую вяду
У даспелае суквецце,
Да бярозак і дубоў.
І пабег у ельнік вецер,
Не кранае жалудоў...
Ах, як добра жыць на свеце
Мне з табой, мая любоў!
Найвысокую прысягу,
Клятву вернасці даю:
Рана ўстану, позна лягу,
Шчодрасць дам табе сваю.
Зазвінелі і запелі
Словы мілае тады:
— Абвянчаем на вяселлі
Кучаравыя гады!
Абвянчалі! Дагадзілі
Кожнай скрыпчынай струне...
Мо запросяць на радзіны
Маладзёны і мяне?

## ПАКУТЫ І РАДАСЦІ СЛЁЗЫ

— А зелена, зелена за ракой,
Там цвыркочуць конікі ў траве,
А ў душы самотнай, не старой,
Пасівелая нуда жыве.
Не пагладзіць міленькі рукой
Валасоў маіх на галаве,
Да шчакі пяшчотнаю шчакой
Не прытуліцца, не пазаве
Майскага паслухаць салаўя,
Ахінуць вяснянкаю душу.
Мілы мой! Чакаю цябе я,
Адгукніся, родны!.. Я прашу.

Просьба дужа шчырая была —
Плакалі расою паплавы.
Галашэннем просьба даплыла
Да яго... Яшчэ ён быў жывы.
Ад ствала паціху да ствала
Поўз баец пад шолах баравы.

Кінула вавёрка свой арэх:
— Раскусі! Хоць трошкі пад'ясі...
Цяжка дапаўзці да родных стрэх,—
Яго вораг куляй падкасіў.

Шышку яму кінула сасна,
Шчыра салавей яму пяе...
— Жонка, чаго плачаш?..
А яна:
— Гэта слёзы радасці мае...
Абдымае зноўку іх вясна,
Песні салаўіныя дае.

## ЛЕСАРУБЫ

— Чаго тут ходзіш?
— Выбіраю
Я на труну сабе сасну.
— Памрэш?
— Яшчэ не паміраю,
Вясной наступнаю засну.
— Чаму вясной, а не зімою?
Па снезе лёганька плысці.
— Мароз не пусціць за труною
Цябе на могілкі ісці.

Жартуе ён ці праўду кажа?
Я пазіраю на яго:
Высокі ён,
а плечы ў сажань,
Асілак! Нудзіцца чаго?

— Жартуеш, друг!
— Якія жарты! —
Нахмураны, злуецца ён.—
Даўно мае згулялі карты,
Даўно жыццю аддаў паклон.

А можа, ён і не жартуе?
Прайшоў даўгі,
нялёгкі шлях.
Магчыма, смерць ужо вартуе
Яго ў наднёманскіх кустах?

— Я падзялю кавалак хлеба
З табою, друг мой, напалам.
Здароўе трэба, сіла трэба?
Вазьмі! Табе ахвотна дам!

— Табе твае патрэбны сілы,
Яшчэ не вельмі ты стары.
Цябе твае чакаюць пілы,
Цябе чакаюць тапары.

Прыкмеціў я: маю павагу
Ўлавіў душою чалавек.
Сказаў: — А я ў труну не лягу,
Яшчэ не кончыўся мой век.
Давай пілу! Павалім дуба!
Ён стане шулай у гумне!..

Абняў я шчыра лесаруба,
Абняў таксама ён мяне.

## БАЛТЫЙСКАЕ МОРА

Спёка! Нават як выжара
Стала і разора.
— Прыгані мне, вецер, хмару
З Балтыйскага мора! —
Просіць жыта маладое...
Вецер хмарку гушкаў.
Ад яе няма надою,
Як ад той цялушкі,
Што сама яшчэ карову
Доіць пад страхою.
А сухмень ідзе ў дуброву:
— Напаі расою!
— Прэч адгэтуль, сухапары,
Да вяршыні горнай!
Я сама чакаю хмары,
Перасохла горла.

А развеяў спрэчку вецер,
Цёплы, шматгалосы:
Хмару цёмную пад вечар
Прывалок за косы.

Напілося ў полі жыта,
А ў жыце — разора...
Знакаміта,
Грамавіта
Балтыйскае мора!

# СКАЗАЛІ ГУСІ МНЕ

Паплыў, паплыў шнурок да гаю...
Каго такое не кране?
— Куды? Спыніцеся! —
гукаю.—
Зімуйце, гусі, ў будане!

Жылі лясныя ў ім салдаты,
У ім прытулак быў і мой.
Сказаў гусак мне стараваты:
— Даўно пакончана з вайной!
Даўно вайна адгаласіла,
Скасілі гора і бяду.
Пакуль у крылах спрыт і сіла —
За мора шнур свой павяду!
Зноў прыляцім сюды вясною,
Вяселлі нашы справім тут...

Сваёй прывабнасцю лясною
Гусей атуліць родны кут.

# НЯМА СТАРОЙ БЯРОЗЫ

Бяроза галасіла
На ранішняй зары:
— Вазьмі пілу, магіла,
Сякеру забяры!
Яшчэ я маладая,
Мой кучаравы чуб...

Сястра яе рыдае,
Гукае: — Лесаруб,
Сячы, пілуй старую,
Пярун ёй чуб падстрыг.
Заныю, загарую
Без маладой сястры.

Журботна заскрыпелі
Старэнькія сукі:
— Яшчэ не ўсё нам спелі
Шпакі і жаўрукі.

Заляскала сякера,
Задзвынкала піла:
— А мы табе не верым,
Ты век свой аджыла!

Няма старой бярозы,
У кожны цёплы дзень
Там пралівае слёзы
Старой бярозы пень.
На ім не заспявае
Ні жаўручок, ні шпак.
Загінула старая
За новы беразняк.

# АБДЫМАЮСЯ З МАСКВОЮ

Я прайшоў дарожак многа
На лужку і на пяску.
А найлепшая дарога,
Што вядзе мяне ў Маскву.

Хоць дарогі ўсе ў каменні
Апрануліся ў Маскве.
А па іх ступаў сам Ленін,
Бачыў кожны дом і сквер.

Серп і молат і калоссі
Уручыў Ільіч Гербу...
Мне таксама давялося
Несці на сваім гарбу
Дзён ваенных ліхалецце
У Маскве і пад Масквой.
А няма ж на белым свеце
Цудадзейніцы такой,
Як Масква!.. Яна сталіца
Нашых сёл і гарадоў.
Нізка, нізка пакланіцца
Я заўсёды ёй гатоў.
А яна ж мяне, як маці,
Ахінае цеплынёй.
І сягоння ў роднай хаце
Абдымаюся з Масквой.

# МАЯ ЖАР-ПТУШКА

Развага сэрца ўскалыхне —
Хвалююся тады я,
Калі пытаюцца ў мяне
Гады немаладыя:

— Ці ўсё зрабіў?
— Усё, што змог!
— Ой, хвалішся замнога.
— Дык многа ж пройдзена дарог.
— А ёсць яшчэ дарога.
— Куды? Магчыма, на пагост?
У жвір маёй магілы?
— О, не! Не кончыўся твой рост,
Не вычарпаны сілы.
Жар-птушку ты схапі за хвост,
Схапі яе за крылы!
— А дзе жар-птушка?
— Тут і там!
Знайдзі, злаві, пагушкай...

Яе даўно злавіў я сам:
Паэзія — жар-птушка!
Яна ў душы маёй пяе,
Спявае ў маім сэрцы,
Ім шчыра голас аддае...
Не верыце? Праверце!

## МАЦЯРЫНСКІ ЗАПАВЕТ

— Многа дарог у белы свет,
А на іх слядоў нямала.
Пакінь і ты свой добры след! —
Маці мяне павучала.

А прайшоў я многа дарог,
Як гавораць, дзякуй богу.
А матулю хатні парог
Не пускаў у дарогу.

Прала, ткала, добра шыла
Мне рубашку і кашулю,
Ды пагукала магіла
Злядашчэлую матулю.

Бацьку майго не старога,
Мужа свайго там спаткае...
Хай бяжыць мая дарога,
Ад могілак уцякае!

Як гаворыцца, клінам свет
Не сышоўся. Спраў нямала...
— На шляху пакінь свой добры след! —
Маці мяне павучала.

Пасівелі мае гады,
Дык яны ж немаладыя.
Іду, пакідаю сляды,
А ці тыя, ці тыя,
Якіх маці чакала?
— Тыя! —
Магіла сказала.

## ЯК ПРЫЕХАЎ СЫН У ГОСЦІ

Урачыстая часіна:
Маці рада, бацька рад.
Сустракаюць шчыра сына,
Сын — праслаўлены салдат!

На грудзях яго медалі,
А пагоны на плячах,
Яны самі расказалі:
Сына вёў пачэсны шлях.

Бацька кажа:
— Ты на танку
Едзеш, сынку. Ён — твой конь.
Я з гарматы ў «грамадзянку»
Вёў па ворагу агонь.

— Памаўчы,— гаворыць жонка.
— Змоўкні ты! — злуецца ён.—
Стратэгічна, вельмі тонка
Трэба ведаць наш закон.

Танк — ого! Ён воін хвацкі,
Цэлы полк змяце адзін.
Так жа?
— Так! —
Адказваў бацьку
За сталом багатым сын.

А людзей, сяброў у хаце
На ўсіх лавах навакол!
Прытамілася ўжо маці,
Прытаміўся шчодры стол.

У танкіста дзед пытае:
— Ты скажы мне, ягамосць,

А ці бомбу тую маем,
Што ў Амерыцы ўжо ёсць?

— Запытайце ў наркамаце.
То ж сакрэт, шаноўны дзед...
Засмяяліся ўсе ў хаце,
Зразумеўшы той сакрэт.

Злосць старога ўзварушыла,
Кажа: — Чулі вы ці не?
Быў мне другам Варашылаў,
Падарыў ён шаблю мне!
Зразумела?
— Зразумела! —
Адказаў яму салдат...

Хата грала, хата пела,
Быў танкісту кожны рад.

## УСЕМАГУТНЫ ЧАЛАВЕК

Пагукалі сенакосы
Раным-рана, на зары:
— Ці гатовы вашы косы,
Дарагія касары?
— Косы нашыя — касілкі,
У касілцы конь — матор.
Калі выплывуць асілкі —
Нізка кланяецца бор!
Копы, сонейкам абвіты,
Лягуць хуценька ў тарпы.
Зашумела ў полі жыта:
— Жнеі, дзе вашы сярпы?
— Нашыя сярпы —
камбайны,
Серп стары аджыў свой век.
Нам пажнуць камбайны
дбайна,
Абмалоцяць, а ў засек
Грузавік нам умалоты
Шчыра, хутка адвязе!..
Запыталася балота:
— Хто капаў маёй лазе
Гэту доўгую магілу,
Што ваду ў раку вядзе?
Я сказаў: — Машынаў сілу,
Шчырасць мудрую людзей
Акрыліла наша доля,
Азарыў дваццаты век.
Як ніколі, як ніколі
Ўсемагутны чалавек!
Там, дзе трэба, зверне горы,
Правядзе ў пяску раку;
Стануць гузікамі зоры
У ягоным пінжаку!

# ПАМЫЛІЎСЯ ЧОРНЫ ВОРАН

Воран ворану картава,
Скрыпуча гукае:
— Паглядзі, якая стр-рава
Пад вярбой чакае!

— Павячэ-р-раем! —
Закаркаў
Воран вострадзюбы...
— Вон, старыя недаяркі! —
Хлопец русачубы
Прыпадняўся, на кіёчак
Абапёрся хлопец.
— Яшчэ танк мой загрукоча,
Па Еўропе скочыць!..

На плячах яго пагоны
Зоркамі зіхцелі.
Як труслівыя вароны,
Вораны ўзляцелі.

Заскрыпелі зноў картава
Над старой вярбою:
— Паляцім! Не наша стр-рава.
Ён гатовы к бою...

Падлячыўся! Да Берліна
Дагрымеў на танку.
Дачакалася дзяўчына
Веснавога ранку,
Калі пелі на вяселлі:
— Люба, братцы, люба!..—
Пахуднелі, злядашчэлі
У воранаў дзюбы!

# ЁН І ЯНА

— Зацвіла чарэмшына,
добра расцвіла,
Запарошыла пялёсткамі траву.
А я цябе з хаты,
з роднага сяла
Салаўямі да бярэзніка заву.
— А я там з табою,
міленькі, была,
Без таго бярэзніку пражыву.
— Пражывеш адна?
— А як думаў ты?
Не запрог! Кабылка, хлопец, не твая.
Ён сказаў: — Кахаю!
— Дык ідзі ў сваты...
Удваіх ім добра слухаць салаўя,
Што даносіць песню шчыруе ў сяло,
У якім вяселле толькі што было.

## ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Ці пастарэў дваццаты век?
Ці ліхалецці падкасілі?
Не, ён, як волат-чалавек,—
І ў старасці пры добрай сіле!

У горы рос,
У бітвах рос,
Яго душыў жабрацкі голад.
Дваццаты век высока ўзнёс,
Трымае моцна Серп і Молат;

Трымае ён дзяржаўны сцяг,
Яму даў волатную сілу;
Падмёў мятлой жалезнай шлях,
Царам-панам капаў магілу.

А ён падрос, а ён расце,
Крануўся чуб крамлёўскай столі;
На добрым хлебе патаўсцеў,
Памаладзеў у добрай долі.

— Працуй, красуй, дваццаты век! —
Мае радкі яго прасілі.
А ён, як волат-чалавек,—
І ў старасці пры добрай сіле!

## КЛЮЧЫ-ЧАРАДЗЕІ

Полем, лугам, праз бары,
Сцежкай праз бярэзнікі —
Адыходзіў год стары,
А прыходзіў рэзвенькі,
Яснавокі, малады,
Заплікнёны зоркамі,
Запытаўся ён тады:
— Ты куды, стары?
                    — Туды,
У будан за ўзгоркамі.
— Не спяшайся!.. Перадай
Навагодні каравай,
Ды на беленькіх садах
Снегіры, як зорачкі.
І тады твой лёгка шлях
Пабяжыць за горачку.

— Не ўцякаю.
              Памаўчы.
Сам жыццём навучаны...
Забірай мае ключы,
Чарадзеі-ключыкі!

Без ключоў пайду. Засну.
Я старэнькі, кволенькі...
Адамкнеш вясну-красну
Гэтым, што зялёненькі.

— Забіраю!
              — Забірай.
Рады твайму голасу!
Гэтым лета адмыкай,
Што падобны коласу.



3

— Забіраю!
— Забірай! —
Даў рукой умелаю.—
Гэтым восень адмыкай,
Ключ, як вішня спелая.

— Забіраю!
— Забірай.
Ён таксама ўмеленькі.
Гэтым снежань адмыкай,
Ключ, як снежань, беленькі...

Год стары аддаў ключы.
Чарадзеі-ключыкі!
Маладому — хоць скачы,—
З радасцю заручаны!

З хаты — ў хату,
з дому — ў дом
Ён заходзіў ветліва.
Абдымала за сталом
Доля наша светлая.

Маладога і мяне,
Добра пасівелага...
Год стары ў тым будане
Спаў да ранку белага.

А чаму ж? Няхай сабе
Адпачне за горкаю.
Ахінуў мяне, цябе
Сонейкам і зоркамі.
— Праўда?
— Праўда! —
Малады

Адказаў са шчырасцю.—
Дзе прайду я — гарады,

Вёскі, сёлы і сады
Там павінны вырасці!
— Верыш?
— Веру!..
Ён і я
Ў згодзе парадніліся.
Вежы роднага Крамля
З намі заручыліся.

## ЗНОЎ БЯРЭЗНІК ПЯЕ

— Ажно брыдка глядзець! —
Кажа жонка мужу.—
Спіш, ляжыш, як мядзведзь,
Хоць і гэткі ж дужы!

— Дык зіма ж на двары,
Снежная пароша.
— Во сякера. Бяры!
Пазнаёмся ў бары
З ёлачкай харошай.

— Дык сама ж ты — ого!
Ёлачка-калючка!
Абдымаць жа каго
Будуць твае ручкі?

Хай ялінкі чубок
Калыша сняжынку.
— Не жартуй, лежабок,
Прынясі ялінку!

Не на жарт, усур'ёз
Пачалася спрэчка...
Ён пайшоў. Ён прынёс.
— Вазьмі, перапечка!

— І вазьму! А чаму ж?
Сонцам заіскрыцца!..
Не мядзведзь—добры муж!—
Хваліць маладзіца
Мужанька-дабрака.
— Ёлачку я маю! —
І пяшчотна рука

Шыю абдымае
Як даўней, як тады,
У юнае лета,
Калі быў малады,
Як ёлачка гэта;
Калі дзеўчыне нёс
Кветкі і зімою,
Калі зорку з нябёс
Зняць хацеў рукою
Не сабе, для яе,
Роднай і харошай!..
Зноў бярэзнік пяе
Над свежай парошай;
Сёння зноў, як тады,
Даўняю зімою,—
Шчыра год малады
Туліцца шчакою
Да яе, да яго,
Шчырае спатканне.
Не пагаснуў агонь
Дружбы і кахання!

# СІНІЦЫ

Мароз!.. Сініца да сялібы
Ляціць. Ёй холадна было...
— Чок-чок! —
Малая дзюбка ў шыбу,
Па шыбе чыркнула крыло.

— Ты, дзядзька, спіш?
— Не сплю. Я чую.
Заходзь! У хаце пад'ясі.
— Я пад страхою заначую,
Ты канапель мне прынясі.

— А хлебных крошак?
— Дай і крошкі!
— А проса?
— Проса я люблю!
Я пад страхой пабуду трошкі,
Пагрэю дзюбку, крылцы, ножкі...
— Пабудзь. Пагрэй. Я накармлю.

І накарміў! І пад страхою
Жыла сініца да вясны.
І нават позняю вясною
Не паляцела ў шум лясны.

Чаго ляцець? Сваё гняздзечка
Звіла сініца. Супакой...
Даспелі, вывелі яечкі
Сінічак шустрых пад страхой.

Лcraталі дружна, калі гаркнуў
Мароз: — Прыйшоў вас асяніць!..
За Новы год я выпіў чарку,
Другую чарку за сініц.

Ажно яны павесялелі,
З бярозы ўбачыўшы мяне.
Пасля ў гняздо яны ўляцелі:
— Ціў-ціў! Мароз нас не кране!

І не крануў. І пад страхою
Цяпер ужо гняздзечкі тры...
— Жывіце дружнаю сям'ёю,
Мае сябры і песняры!

## ПІЛІП З КАНАПЕЛЬ

— Спіш, Піліпе?
— Ды заснуў.
Не будзі, Якубе.
— Слухай! Бусел вясну
Нам прынёс у дзюбе.
— А няўжо?
— Далібог!
З буслянкі клякоча.
Ён цябе за парог
Вызваць з хаты хоча.
— А навошта яму
Мяне клікаць з хаты?
— Прагультаіў зіму!
Ведае цыбаты.
— Ты данёс?
А Якуб
Адказаў Піліпу:
— Незакончаны зруб
Ля старое ліпы
Расказаў, што праспіш
Вясну маладую.

— Можа, ты памаўчыш?
Жыву, не бядую! —
Крыкнуў буслу: —
— Акыш!
Зруб я дабудую.

— Дабудуеш?
— Няўжо ж!
Навастру сякеру...
Бусел кажа: — На грош
Я табе не веру!

Ты Пiлiп з канапель,
Я не памылiўся.
— Памаўчы!..—
у пасцель
Зноў Пiлiп зашыўся.

Паваліўся! Заснуў,
Спячка ў вялых жылах.
Лёгка бусел вясну
Калыхаў на крылах.

Асыпаў на пасцель
Промнi дзень гарачы.
А Пiлiп з канапель
Не чуў i не бачыў.

Зруб крычаў. Ён ахрып,
Гукаўшы Пiлiпу:
— Прачынайся, Пiлiп!
Уцяку з-пад лiпы!

Ёсць у вас гэткi тып?
Праганiце тыпа!

5 Зак. 643

## НОВАЙ ДОЛІ ЗАРА

Ён не жыў,
А тужыў,
Як загон без плуга.
На палетку чужым
Парабкоўства гужы
Напінаў ён туга.
— Ні кала ні двара! —
Гора галасіла...
Новай долі зара
Сілу акрыліла.
Яна шчасце дала,
Якога ніколі
У былыя гады
Не спаткалі дзяды
Ні ў лузе, ні ў полі,
Ні ў гаі, ні ў бары,
Дзе жывуць вавёркі...
Паглядзі! Плугары
Да вячэрняй зоркі
Вострацъ глебай плугі,
Каравай дасць глеба.
А на лузе стагі
Падпіраюць неба!
У жыццё новых дзён
Расчынілі брамку.
Сонца нізкі паклон
Пасылае ўранку.

# ЁН З БЕСЯДЗІ БАЧЫЎ ГРАНАДУ

Шчасце ў працы, у светлым
Здзяйсненні надзей,
Шчасце ў тым, каб змагацца
За шчасце людзей.

*Аркадзь Куляшоў*

I

Цыганскае сонейка — месяц —
Купаецца ў роснай траве;
Плыве ён па рэчаньцы Бесядзь,
Па Млечнаму Шляху плыве.

Як буслік, хлапец каля рэчкі
Стаіць і глядзіць на агонь.
Кудлатаю белай авечкай
Разлёгся туман. Белы конь
Пафырквае цёпла ў дзятлоўнік,
Сляды капытоў на расе.
Конь чэрава сыта напоўніць,
Як бочку з лужка панясе.
Паедзе начлежнік
Ды ў грыве
Сагрэе ён рукі свае.
Цяпер жа агеньчык ігрывы
Яму цеплыню аддае.
Глядзеў на яго зіхаценне,
Успомніў малюнак такі:
У цёмнай яловай глухмені
Не могуць прабіцца праменні
Праз лапкі, смугу, хмызнякі;
Нібыта ў глухім сутарэнні,
Там нават сумуюць ваўкі;
Куваць там зязюля не хоча,
Там дзяцел няшчыра стукоча
Па чорным суку, па ствале;
Там толькі сава зарагоча
Ды сыч адгукнецца ў дупле.

Глухменю самота вартуе
Ды сум барадаты, даўгі.
І толькі агеньчык ратуе
Ад цёмнай паўночнай тугі...
Агеньчык такі дарагі
Я ў словах ягоных убачыў,
У шчырых ягоных радках,
У сэрцы юнацкім, гарачым,
У ясных, разумных вачах.
Ён быў у маім уяўленні
Прагалкам між пушчы глухой,
Палянкаю зорак, праменняў;
І травы і краскі на ёй
Жывуць у такім зіхаценні,—
Ну, проста няёмка нагой
Ступіць на суквецце...
Палянкай
Паэзія стала яго,
Напоўнена свежасцю ранка,
Дыханнем вятроў і маланкай;
Жывы чарадзейны агонь
Яе апраменьваў вытокі,
Яе гартаваў, гадаваў,
Узносіў на крылах высокіх,
Узлёт ёй імклівы даваў.
Пад сонца, пад зоркі, пад месяц
Паэзія шлях свой вяла,
Высокаю марай жыла...
Маленства паэтава —
Бесядзь —
Сардэчна і ціха плыла
Праз думку, і сэрца, і песню,
А ёй было ў сэрцы няцесна,
Прывольна ў шырокай душы...
На Бесядзь вятрыскі прынеслі
Маторную песню машын.
І трактар тады перакрэсліў
Плугамі журботу глушы.

На трактар глядзіць цётка Вольга,
Бяжыць і крычыць аж да слёз:
— Загончык мой, вузкі, нядоўгі,
Схапіў і пайшоў! І панёс!..

Прыціхлая, сумная трохі,
У поле глядзіць ад варот.
Паэт ёй гаворыць: — Эпоха
Вядзе свой разумны паход.

І сам ён паходам натхнёны,
Узняты паходам з глушы,—
Раскройваў плугамі загоны,
Ён песняй самоту глушыў.

А песня — лугамі, палямі,
Па спелых сунічных палянах,
У песні сардэчнай чуваць:
— Загінуць гатоў, каб сялянам
Зямельку ў Гранадзе аддаць!..

Ён з Бесядзі бачыў Гранаду,
І тую ў Гранадзе Брыгаду,
Якая праз кроў і агонь
Ішла за народную ўладу;
На тых, у агні, барыкадах
Стаяла нянавісць яго;
Пякельным агнём апякала
Душыцеляў долі людской...

Самотна хмурынка стаяла
Над Бесяддзю — ціхай ракой.

Над ёй апрыліся крылы
Высокае мары яго;
Наліўся праменнаю сілай
Жывы Праметэеў агонь.

II

«Мы жывём на граніцы»,—
Насцярожваў ён нас,
Хоць даспелых суніцаў
Быў тады мірны час;

Хоць у травах крынічка
Бегла ціха ў раку...
— Гэй, не спі, паграніччa,
Будзь заўжды начаку!

Хоць вялі нас дарогі
У жыццё новых дзён,
А ўжо нейкай трывогай
Быў ахоплены ён;

Адпраўляўся ў разведку,
Нібы чуў блізкі бой...
— Ранак, будзь жа за сведку,
Пойдзеш, ранак, за мной!..

Як байцу, таму ранку
Аддаваў ён загад:
— Каб варожыя танкі
Не прыйшлі к нашым ганкам,
Не прывезлі салдат,—
Дзе раку помніў розум,
Там азёры кладзі,
Дзе быў корч,—
Там бярозу
Ты з карча нарадзі;
Дзе яснела разлога,—
Пасцялі там туман;
Цемрашала чужога
Завядзі ты ў падман,
Шлях у нашу краіну
Перайнач, перайнач!..
Можа, ў бітве загіну?
А ты, ранак, не плач.

Хай наш вораг паплача
Сам крывавай слязой;
Хай з аўчыначку ўбачыць
Неба над галавой!..

Ранак росны іскрыцца,
Разагнаў туманы.
Ясны час. Касавіца.
І стагі, як званы.
А ён чуў навальніцу,
Чуў яе перуны,
Хоць яшчэ па граніцы
Не стралялі яны;

Хоць яшчэ ранак яркі
За ракою касіў,
А ён з Бесядзі хмарку
Пасылаў і прасіў:
— Над узлескам, над борам
Праплыві, раскажы:
Я напоўнены горам,
Бо паўзе люты вораг,
Нібы змей, да мяжы;
Над лугамі, над жытам
Праплыві, абвясці:
Я маланкай абвіты,
Мяне гром ахрысціў.
Дарагая хмурынка,
Зразумей жа мяне:
Скора будуць зажынкі
У маёй старане.
Каб хаця не прынеслі
Ім чужынцы пакут.
Зажынковую песню
Слухаць я хачу тут...
Добры вецер,
вятрыска,
Зашумі, загукай:

З дымам, полымем, прыскам
Гора сунецца ў край.

У трывозе жыву я
За мой край,
За ўвесь свет...
Ладзіў сувязь жывую
З хмаркай,
                з ветрам паэт,
Каб хаця не чапалі
Злыдні нашай зямлі,
Каб гарматы маўчалі,
Каб нямымі былі
Ненажэрныя жэрлы
Танкаў з моцнай брані.
Сеяў розуму зерні,
Шчыра мір бараніў,
Бараніў нашу працу,
Ход стваральных падзей...
— Шчасце ў тым,
                каб змагацца
Нам за шчасце людзей! —
Гэты заклік разумны
Напісаў сэрцам ён...
Бралі змрочныя гуны
Наша шчасце ў палон.

Гул жалезны, сталёвы
Глушыць,
Душыць
Спакой;
На зялёнай дуброве
Лёг счарнелай смугой.
Месяц страшны, мядовы
На Хрысціну з жальбой
Пазірае, нудуе,
Разам з ёю бядуе
Найвялікшай бядой.

У Іванавай хаце
Ўжо Івана няма.
І не тая тут маці,
І не тою сама
Стала раптам Хрысціна,
Блекнуць вочы ад слёз.
Нібы тая каліна,—
Горкі сум,
Горкі лёс.

Б'юць з гармат недаяркі
Па жыццю маладым.
Магілёўскую хмарку
Ахінуў чорны дым.

Злыдні танкамі месяць
І свабоду і лёс;
Плача родная Бесядзь,
Саланее ад слёз.

Праз тугу пазірае
На пакуты паэт.
Яго сэрца рыдае,
У ім горычы след.

Як лісток адарваны
Пакідае свой клён,
Так, бамбёжкаю гнаны,
Дом пакінуў і ён.

Выйшаў з роднага Мінску.
Ах, балюча было:
Гора сумную рыску
На ілбе правяло;
Стала лапкай гусінай
Ля журботных вачэй;
Нейкай чорнай і сіняй
Скрухай сэрца пячэ;

Адабрала, забрала
Кепку і палітон;
Да вайны прапісала,
Да вайсковых калон,
Да смугі, пылу, дыму,
Да салдацкіх дарог...
«Родны край мой! Ісціму,
Не шкадуючы ног,
Не шкадуючы куляў
Для варожых салдат.
Для Радзімы-матулі
Стаць гарматаю рад.
Хай з мяне адкрываюць
Па прыблудах пальбу,
Хай агнём пакараюць
Злыдняў — нашу журбу.
Я загінуць гатовы
За Радзіму ў баю.
Чуеш, ранак вайсковы?
Слухай клятву маю:
Калі выбух траціл у
Перакрэсліць мой шлях,—
Я калінай з магілы
Прарасту, на руках
Уздыму зяляніну
Да яснюткіх нябёс,
Хай калыша каліна
Светлы дзень, новы лёс,
Дзе [redacted] маёю краінай
Гадаваўся і рос...»

III

Я не ведаў, дзе ён... Ці жывы?
Мо засыпаны недзе зямлёю?..
А ён — дзённік пісаў франтавы
Гневам, горам, слязою,
Шчырым сэрцам і шчодрай душой

І пакутнай блакадай...
Нарадзіўся нялёгкай парой
«Сцяг брыгады».

Гусі дзікія ў вырай плылі,
Жураўы пакідалі балота.
Ён прыйшоў у рудым шынялі,
У запыленых ботах.

Учарнелы,
Змарнелы,
Худы,
Вельмі стомлены, небарача,
А вясёлы, душой малады,
У вачах іскры ясныя бачу.

— Ты адкуль?
Ты з-пад куль?
Ты з пярэдняга краю? —
У яго я пытаю.—
Ці надоўга ў Маскву?
— На сем дзён,—
Зняў пілотку з паблеклаю зоркай.
Пахне дымам і порахам ён,
І салдацкай махоркай.

Дастае ён кісет:
— Закуры,—
Круціць спрытна цыгарку.
— Што ў мяшэчку тваім?
— Сухары,
Да іх вершы мае, для прыварку.
Другі фронт у мяшэчку маім.
Разумееш? Тушонка свіная! —
Ён жартуе. Мне весела з ім,
Я душою яго абдымаю.
Я кажу: — Ты — жывы нейкі цуд!..
«Ліст з палону» чыталі мы тут,

Многа гора, пакут
У лісце палымяным,
У дзяўчат-паланянак.
Піша ліст паланянка слязой:
«Любы мой!..
Развіталася сонца з зямлёй,
Пацямнелі дубровы...
З-за дубоў узыходзіць мой страшны,
мой месяц мядовы...»

— Страшны, братка, малюнак. Нуда.
Працінае бяда
І пякучая скруха...
Ён сядзеў, моўчкі слухаў,
Зноў мяшэчак малы завязаў,
Сіпавата сказаў:
— Прастудзіўся я трошкі:
Бамбёжкі, бамбёжкі
Заганялі ў халодны акоп,
Прыціскалі ў балоце сцюдзёным.
Там, бывала, ляжаў, як той сноп,
Там пісаў гэты дзённік.
У ім многа пакуты і слёз,
І мужнасці нашай Брыгады,
Якую спаткаў горкі лёс
Варожай блакады...

Я чытаў: то — па сэрцу мароз,
То — пякельная спёка,
То — балюча, шчымліва да слёз,
То — ўзлятаю высока.

Я чытаў, а нянавісць мая
Пад бамбёжкай ішла
па лугах і гаях,
Па варонках, па ямах.
І нібыта я сам у пякельных баях,
У агні я таксама.

Я па прыску іду,
Я іду па вайне,
Па крывавых разорах.
Апякае мяне,
Прыгнятае мяне
Ўсенароднае цяжкае гора.

І нібыта не ён —
Я іду за шалаш
Слухаць зводку на сумным узгорку.
Чую: горад пакінулі наш.
«Стане крыўдна і горка.
Што ты скажаш, вавёрка?..»

А што можа сказаць яна мне?
Мне нічога вавёрка не скажа...
Я па смутку іду,
Я іду па вайне,
Па яе галавешках і сажы.

Не плугамі ўзарана зямля,
А бамбёжкаю лютай.
Пачарнелы я сам, як ралля,
Ад балючай пакуты.

Бачу: хлопчык з дубровы бяжыць
Па траве, па мяжы
Да байцоў, што выходзяць з блакады,
Што выносяць святыню Брыгады —
Сцяг пачэсны, высокі...
— Э, хлапчук сінявокі,
Ты адкуль?
— Я — здалёк.
— А як зваць цябе?
— Васілёк,
У дуброве збіраю я дровы,
Каб спячы хоць бульбінку,
Бо няма ж і сухое скарынкі.
— Во, бяры, укусі хлеба, сынку...

А ў яго «слёзы сыплюцца... пацяклі,
Пакаціліся самі
Па сухой траве, па зямлі
І па сэрцы маім
Таксама».

Валакуся, брыду па вайне,
Па слязах і пакутах аселіц...
Што такое? Пачулася мне?
Ці сапраўды вяселле?
Вяселле!

Нейкі злыдзень замшэлы Мядзведскі,
Паслугач і падлізнік нямецкі,
Бярэ ў жонкі пагрозай дзяўчыну,
Пад пагрозаю бацька іграе.
Скрыпка плача, галосіць і ные,
Плача бацька, нібы на чужыну
Ён дачушку сваю адпраўляе...

Горам, гневам і бурай
Напісаў ён паэму ў акопе.
Вельмі быў я абуран,
Калі нейкі зласлівец і дурань
Гаварыў пра яе недахопы:
— То даўжэнькі радок,
То куртаты,
Ну, навошта ён ломіць, сваволіць?

А Твардоўскі сказаў:
— Бюракратаў,
Іх замшэлую форму ён ломіць!
Гладкапісу рашучы даў бой,
Паламаўшы застыласці рогі;
Ён народнай паэмай сваёй
Пракладае дарогі
Да народных крыніц, да глыбінь,
Дзе жывуць самародкі...

Ты маўчы! Ты пакінь
Пра даўжэнькі радок,
Пра кароткі!
Прыгадай, як хлапчук папрасіў
Хлеба, як укусіў
І пабег басаногі па ямах?..
Цёмны лес галасіў.
І паэт галасіў.
Я — таксама.
Пакланіцца паэту хачу
Ды абняць па-сяброўску...
Я вялікую радасць адчуў,
Як абняў яго шчыра Твардоўскі.
— І Купалу люблю,— ён сказаў,—
Сына братняй маёй Беларусі.
І паэма твая, як сляза,
І табой ганаруся.
Да сябе ты мяне прывязаў,
Да цябе я душою гарнуся...

За сяброўскай вячэрай яны,
Адной долі-нядолі сыны,
Як браты, поплеч, доўга сядзелі,
Гаварылі і пелі.
Прызнаваўся Твардоўскі:
— Сябры,
Я люблю вашы шчырыя песні
З нейкай ціхай журбінкай,
Як зязюльчыны вашы бары,
З нейкай яснай іскрынкай,
Як лужок ранкам веснім.
Бачу ў песнях народа душу...
Дарагія, сябры, я прашу,—
Заспявайце:
— Ой, рана, на Йвана...
Пачынай жа, Аркадзь! Падпяю,
Прыгадаю народныя словы...
І ён сэрца сваё,

І ўсю шчырасць сваю
Перадаць хацеў песні не новай,
А старэнькай, якую спявалі дзяды,
Іх дзяды і бабулі...
Наш паэт быў тады
І пашанай, і ласкай атулен.
А віхурнай, марознай зімой,
У халоднай кватэры сваёй
Прыласкаў Куляшова Асееў,
Гаварыў: — А мы сеем сабе, а мы сеем,
Як пісаў ваш вялікі Купала...
Палюбіў я «Прыгоды цымбалаў».
Даражэнькі, даўно я прыкмеціў,
Той агеньчык, які ярка свеціць,
У душы вашай шчодрай жыве.
З даваеннай дэкады ў Маскве
Бачу воблачка тое,
Што трапеча, трапеча, жывое,
У рацэ
І ў руцэ;
Яно ў сэрцы маім з той часіны
Б'ецца рыбкай жывой...
Вы — паэт! Чарадзей! Салаўіны
Голас ваш, найшаноўнейшы мой!..

Пасівелы, рухавы і ветлы,
І з натхнёнасцю нейкай юначай,
У вачах і разумных і светлых —
Я душу яго ясную бачу.

Дабраты ў ёй пяшчотнай нямала,
Прамяністасці свежай, вясновай...
— Мнагазвучныя вашы цымбалы,—
Кажа ён Куляшову.—
Дарагія мае беларусы,
Не бываў яшчэ я ў вашым краі.
От прыкончым вайну — дабяруся,
Хай і мне там цымбалы пайграюць...

І, здаецца, адразу я вырас,
За Аркадзя я рады быў вельмі.
Цеплыню ўстрэчы шчырае вынес
На мароз і на вецер мяцельны.

Мы — ішлі.
Снег скрыпеў
І рыпеў
Пад нагамі на белай дарозе.
І нібыта ён пеў,
Добра пеў
У Маскве,
На маскоўскім марозе.

IV

Ад куляў дзірачкі сасна
Загойвае смалою,
Пастуквае, звініць вясна
Сякерай і пілою.

Зраднілася зноўку родны свет
З работаю харошай...
Чарэмшыны бялюткі цвет,
Як свежая пароша,

Па небе воблачка плыве,
Па Бесядзі таксама.
Усё жывое зноў жыве,
Бяда — ў магільных ямах.

Капаў і ён, паэт, бядзе
Магілу найглыбока...
Жыццё ідзе, і ён ідзе,
Прыкмеціў: колас ноч і дзень
Свае ганяе сокі.

«Ні днём, ні ноччу ад турбот
Спакою ён не мае.

А раніцою з твару пот
Ён сонцам выцірае».

Як добры колас, так паэт
Працуе і шчыруе.
Смуга агорне родны свет —
Паэт душой гаруе.

Не ранак той,
Што за ракой
Ішоў тады ў разведку,—
Я сам сягоння сведка,
Сваёй уласнаю рукой
Пішу, даю даведку:

Яшчэ жаўрук спіць пад мяжой
І жаўруковы дзеткі,
Пастух асіплаю трубой
Не пабудзіў палеткаў,
Не стукнуў дзяцел гучна ў ствол
І не разлушчыў шышак,
А ён, паэт, прысеў за стол,
Ён — думае,
Ён — піша.

Адзін радок,
Другі радок
Кладзецца на паперы.
Сінее змрок,
Бялее змрок,
Плыве кудлаценькі дымок
Ад папяросы ў дзверы.

Яму сказалі дактары:
— Шаноўны,
нельга вам курыць,
Не дазваляе сэрца,
Курыць — падобна смерці...

О, колькі бур і навальніц,
І слёз яно ўмясціла!
Таму шчыміць,
Таму баліць,
Але жыве ў ім сіла;

Яго агеньчыка гады
Ні хмарай чорнае нуды,
Ні глыбай цяжкаю бяды
Не задушылі! Свеціць,
Жывы, яскравы, малады,
Як сад вясновы ў цвеце.
Жывым агеньчыкам паэт
І сёння піша творы.
У іх жыве шырокі свет,
Яго лясы, азёры,
Хрыбты, цясніны, горы,
І радасці, і гора,
І спеў машын,
І гул шашы,
Апрануты вятрамі;
У творах выбухі душы
Бушуюць, як цунамі,

Бушуюць, быццам ураган,
Яны —
Высокай пробы,
Яны хістаюць акіян
І гмахі небаскробаў;

На бомбу страшную яны
Сваё наклалі вета,
Каб самай лютае вайны
Не ведала планета;

Каб на зямлі быў добры лад,
Не шчэрыў голад зубы,
Каб колас жменю даў зярнят,

Каб жолуд вырас дубам...

. . . . . . . . . . . . .

Суніцаў час...
Ідзе паэт
Пад сонейкам гарачым,
Свой першы след,
Юнацкі свет
Над Бесяддзю зноў бачыць.

І тыя ж конікі ў траве
Развеселі званочкі;
Дзяўчаты, цёткі на жніве
У беленькіх сарочках;
Зязюлін смутак зноў плыве

За Бесяддзю ў лясочку.
І дружбакоў
І землякоў
Паэт страчае шчыра;
Калісьці з імі кулакоў
Ён пасылаў «у вырай».

А дзе ж Алесь, былы дружбак,
Хлапец з душой іскрыстай?
Калі кручка не браў шчупак,
Дык абзываў тады зямляк
Яго апартуністам.

А дзе ж Аніс, вясёлы хват,
Што рокатам матора
Хістаў стары, кудлаты лад,
Кулацкія пячоры?

А дзе ж Алеся? Дзе яе
Чырвоная касынка?
Яшчэ, магчыма, запяе
Дзяўчына на зажынках?

Яшчэ, магчыма, прамільгне
Касынка ў жыце зоркай?..
Пайшоў, прылёг ён у гумне
На сене... Трошкі горка,
Самотнаму, на сене тым,
Пад шэраю страхою.
Шчабечуць ластаўкі над ім,
А ён у млявай мроі
Плыве, паціхеньку плыве,
У сне нібыта чуе:
«Аркадзь, юнацтва тут жыве,
І днюе і начуе».
— Ідзі сюды! — яно заве,—
З табой пабыць хачу я.
Шчака — ў шчаку,
Рука — ў руцэ
Мы пойдзем зноў з табою;
Падчэпім плотачку ў рацэ
І воблачка жывое;
Агеньчыка лягенькі дым
Пасцелем на зацішак;
Падышам ельнікам адным,
Смалой мядзвяных шышак;
Вясной паслухаем глушцоў,
Пабачым такавішча;
Свісцёлкі выражам з дубцоў,
Нібы шпакі засвішчам;
Паедзем зноўку на начлег,
На паплавец, на ўзлессе;
Пачуем там вясёлы смех
Прывабнае Алесі;
Яе касе,
Яе красе
Зайздросцілі, бывала,
Дзяўчаты ўсе і хлопцы ўсе,
Яна цябе кахала;
Гармонік рыпне, павядзе
У сяло на вечарынку.

Аркадзь, не спі! Аркадзь, хадзем
Знаёмаю сцяжынкай
У наш вясёлы новы клуб,
На дыспуты з папамі,
Дзе бралі мы Хрыста за чуб
З цярновымі вянкамі,
Дзе першым вершам пілаваў
Замшэлую дрымоту,
Дзе сэрца ты замілаваў
Натхнёнаю работай...

Устаў. Ідзе. Мурожны шум
Пакінуў за плячыма.
Глыбокі роздум. Лёгкі сум,
Як подых аблачынак.
Плывуць перад вачыма
Малюнкі светлых, горкіх дзён,
Нядаўніх і далёкіх.
І толькі ўперад крочыць ён,
Назад не зробіць кроку.

Да ясных новых берагоў,
У свет без рабства і багоў,
Без бомбаў, без трацілу —
Нясуць імкліва крылы.
Душой шырокаю паэт
Абняў жыцця грамады,—
Таму відаць яму Сусвет
І з Бесядзі — Гранада.

Жыве, паўнюткі дабраты,
У кожнай красцы, гронцы,
Нібыта колас залаты,
Твар выцірае сонцам.

Зіхціць яно ў яго душы,
Ў яго вачах іскрыцца...
— Сынок, ты пішаш? Ну, пішы,—

Прыціхлая, садзіцца
Матуля шчырая на ўслон,
Глядзіць яна на сына:
«Мо сырадою б выпіў ён?
Мо з'еў бы ён маліны?
Любіў жа некалі сынок
Піць сырадой уранку...» —
На стол паставіла збанок,
Карэц маліны, шклянку.

— Сынок, ты сёння не пішы:
Рука твая самлела...
Ад шчырай ласкі на душы
У сына зашчымела.

«Ах, маці, маці... Колькі ў ёй
Пяшчоты чалавечай!» —
І ён прачулаю рукой
Абняў яе за плечы,

Сказаў старэнькай: — Дапішу,
Як вып'ем той гладышык.
— Ага, сынок. Бяры. Прашу.
Яшчэ, сынок, дапішаш...
«Схаваць бы гэты алавок,
Усю паперу гэту.
Яны, як нейкі ланцужок,
Яго трымаюць. Мой сынок
Не ўбачыць летам лета».

Ідуць суседзі, землякі:
— Паэт, у хату пусціш?..
Ягонай стомленай рукі
Ім не шкада чамусьці.

Стары гаворыць: — Напісаў
Ты кніг, зямляк, нямала...

Ты б рукавы, брат, закасаў
Ды напісаў удала
Пра пчолак нашых, пра мяне —
Даю жывую тэму...
— А што ж? У гэтай галіне
Пчаляр наш — акадэмік! —
Хваліў яго другі стары,
Каваль шыракаплечы,—
Ты б нашы ў кнігу трактары
Уставіў, чалавеча?
Чаму маўчыш? Ты гавары.
Уставіш? Згода?
— Згода!..
— Пішы, суседзе. Убяры
Душой жыццё народа.
Ты — наш надзейны Дэпутат,
Нясеш пачэсна службу...
І ён, паэт, быў вельмі рад
Такой сардэчнай дружбе.

Выходзяць з хаты дружбакі,
Ідуць на сенакосы.
Ляжаць радкамі ля ракі
Завялыя пракосы.

Ад іх мядовы дух плыве,
Нібы ад цёплых сотаў...
— Пабыць ахвота на жніве?
— Вялікая ахвота! —
Аркадзь адказваў землякам.—
Любіў, люблю зажынкі...
Падумаў: «Можа, ўбачу там
Чырвоную касынку?
Алесю-сірацінку?
А ці пазнаю там яе?
Вядома — пастарэла...»
І штосьці ў сэрцы зноў пяе,

І штосьці зашчымела...
Няма яе паміж кабет,
Не жне Алеся жыта...
— Сядай, зямляк! У нас — абед!
Да беражкоў наліты
Падносіць кубак малака,
Падносіць хлеб, вяндлінку,
Частуе шчыра земляка
Жняя, як журавінка,
Гаворыць: — І дажынкі
З табою справім! Па руках?
Дапамагай жанчынкам!
І свецяцца ў яе вачах
Вясёлыя смяшынкі.

Пад грушай-дзічкаю прысеў
Зямляк у прахалоду.
Адчуў, убачыў: рады ўсе
Ягонаму прыходу.
Падумаў: «Можа, занясе
Мяне ў мае прыгоды
Ракета мудрая на Марс,
Або на ясны Месяц?
І там я, родненькія, вас,
І нашу рэчку Бесядзь —
Шаноўна ў сэрцы пранясу
Ў халоднай стратасферы.
Вярнуся ў гэтую красу,
На гэты ясны бераг,
Да гэтых спелых каласоў,
Да песні зажынковай.
Без вашых родных галасоў —
Няма і песні новай...»

Быў рад саюзу светлых душ
І палымяных сэрцаў...
— Жывую сувязь не паруш! —
Крычыць зямля, здаецца.

Гатоў абняць шырокі свет,
Людзей харошых, родных...
Ідзе жыццё,
Ідзе паэт...

Пакінуў ён глыбокі след
У Памяці народнай.

# ПАРМОН

## I

Быў мне блізкаю радней
Сам Пармон Даніла.
Дзядзьку сілай немалой
Доля надзяліла.

Ён — як волат-Вярнідуб,—
Бура і натхненне!
Клаў лясное рэха ў зруб,
Клаў званы-бярвенні.

Зруб, як светлы, звонкі май,
Гладкі, як яечка.
Варам поўна налівай —
Зруб не дасць працечкі.

Бочку піва прывалок
Дзядзька на вяселле.
— П'ём, гуляем! —
                        У кружок
Каля бочкі селі,
Хто на лаву, хто на ўслон,
Хто на зэдлік нізкі.
— П'ём, гуляем! — і Пармон
У збаны ды ў міскі
Налівае піва ўсім
З карчмаровай бочкі.
І старым, і маладым
Даў ён па глыточку.

Заскакала, загула
Хаціна крывая:
— Ні двара ні кала,
Бедната гуляе!

Ах, быў хвацкім дзецюком.
Бачылі суседзі:
Стукнуў гірай-кулаком —
З ног зваліў мядзведзя!

На дарозе палявой
Зарыкаў бугай:
— Не стой!
Прэч з мае дарогі!..
А Даніла, дзядзька мой,
Ухапіў за рогі.
— Эп! — крутнуў над галавой.
— Эп! — шпурнуў з дарогі
На вясновы паплавец,
За кусцік чубаты...
— Ну, выходзь! Выходзь, баец! —
Бугаю гукнуў касец,
Сейбіт і араты...
Што араць?
Такі загон,
Як далонь Данілы.
Што касіць?..
Туманны сон,
Смутак нарадзіла
Лугавіна між кустоў
З іржавай тугою...
Будзе пунька зноў пустой,
Зноў касі дугою
Сена ў гумнах у чужых.
Ах, не шмат накосіш!..
Смутак дзён далёкіх тых,
Чаму ў сэрцы не прыціх,
Што ж мне вейкі росіш?
Што шчымліваю струной
Мне пілуеш сэрца?..
Той далёкаю парой
Выйшаў бы за праўду ў бой.
Выйшаў бы! Паверце.

Не было б гаротных дзён,
Добры дзядзька мой Пармон
Быў бы важным тузам...
— Хто ты, братка?
— Я — Антон!
— А я думаў: фон-барон,
Ці герой Баграціён,
Ці стратэг Кутузаў! —
Пасміхаецца сусед,
Барадаты, гладкі.—
Ты паэт? — Ага, паэт.
— Добра! Для пачатку
Пра Хатлянскі сельсавет
Напісаў бы, братка.
— А чаму ж? І напішу!
Гэта мне пад сілу.
У паэму запрашу
Пармона Данілу.

II

Яшчэ спаў цыбаты бусел на страсе,
А Пармон Даніла — ў поле па расе.
— Ну, цягні, мой конік...
Родны, памажы!..
Напінае конік жылы, як гужы;
Выгінае спіну, пысаю раллю
Нюхае і мроіць: «Сена зараблю!»
Прапацеў. Стаміўся. Стаў у баразне.
Ён саху-крывулю з месца не скране.
— Валачы, падлюга! —
Пугаю Пармон
Хвошча рабацягу. Конік на загон
Паваліўся. Плача. Вочы поўны слёз.
Не ўзараў загона. Не ўзрасце авёс
На загоне вузкім, на якім падзол.
Стол у хаце бедны. Гол як той сакол,

Хлеб уцёк упрочкі. Уцячэ расол,
Покі дасць гурочкаў бедная града,
А яшчэ не скора прыйдзе лебяда
У шчарбаты, чорны, як цыган, чыгун.
Думае Даніла: «Ах, бяда, бяда!
Каб яе маланка, каб яе пярун!»
Ён стаяў самотны. Сэрца галасіла:
«Матухна, матуля! Што ж ты нарабіла?
Гаравапь на свеце мяне нарадзіла.
Плача маё сэрца. Гарачыя слёзы
Упадуць на лозы — паўсыхаюць лозы...»

Ён стаяў счарнелы, стомлены, худы,
Ён шаптаў: «Куды ж мне збегчы ад бяды?»
Нібы цень, бяда з ім крочыць след у след.
Як загончык, вузкім стаў шырокі свет.

«Цесна ў белым свеце!» —
выращыў Пармон.
А даўно чакае лепшых, новых дзён
Учарнелы, шэры хлебадар-мужык.
У душы збалелай уздымаўся крык:
«Божухна, паслухай! Чуеш? Памажы!»
Не пачуў Данілу. Богу ён чужы.

Памагае пану міласэрны бог,
Пасылае пану кожны дзень пірог;
Надзяліў ён пана тлустаю зямлёй,
Салаўіным гаем, рыбнаю ракой.

За суніцы з лесу — пану пакасі,
За мянёчка з рэчкі — пану паднясі
Тонкія карункі...
Кажуць, пан-мастак!
«Божухна, ты чуеш?
А не грэшна так,
У хаўрусе з панам абіраць людзей?
Дзе святая праўда? А няма ж нідзе!»

Гэтак ён у думках з богам гаварыў,
Ды гукнуў у неба ўзрушаны Пармон:
— Я табе не веру, божухна стары!
Скасаваць патрэбна твой стары закон!
Па тваім законе рай і на зямлі
Нашаму магнату, нашаму папу.
Мой загон пясчаны буры размялі,
Не ўзраслі калоссі.
Што рабіць цапу?..

Дажынаюць жыта, а яго загон
Вырасціў крапіву, вырасціў быльнёг...
Не пайшоў Даніла к пану на паклон,
Не схіліўся нізка да магнацкіх ног.

Жаў ён пану жыта. Ён вязаў снапы.
Залацяцца ў полі панскія тарпы.
«Дык узяць не грэшна? —
разважаў Пармон.—
Сам нажаў я жыта, наскладаў тарпоў!»
А як ноч сцямнела,— ціха, ціха ён
Падышоў да сцірты ды набраў снапоў;
Узваліў на плечы...
«Ночка, памажы,
Хмараю на небе зоркі заслані!»
Нехта ўжо гукае:
— Злодзей, не бяжы!..
Да яго імчыцца нехта на кані.

Тухкае ў паўмежак капытамі конь,
Выдзімае з храпы хмару і агонь,
Наляцеў, як бура!..
Паглядзеў Пармон:
На кані душыцель! Гэта, злыдзень, ён
Яго бацьку ў лесе шабляю засек.
А за што? Ляшчынку высек чалавек
На абруч. Цабэрак абруча прасіў.
А за гэта бацьку шабляю скасіў.

Гэта ён, зіркаты, люты душагуб,
Мужыкоў гаротных, як груган, абскуб,
Прыдушыў іх штрафам...
Нават за арэх
Падмятаў засекі з-пад мужыцкіх стрэх.
А такога ж гада задушыць не грэх!..

Не пабег Даніла. Ён трымаў снапы,
Яго пот і слёзы ў спелых каласах.
— Гэта ты, Даніла?!
— Хіба ты сляпы?
— Памаліся богу на чужых снапах!

Адказаў Даніла злыдню-гайдуку:
— Памыліўся, падла! Я свае нясу.
— Памаліся богу!
Шабляй засяку!..
Падляцеў Даніла:
— Я тваю касу
На касцях паганых добра натачу!..

Толькі чула поле, толькі конь пачуў,
Як пад шабляй хруснуў чэрап гайдука.
Патрымала шаблю гнеўная рука,
Зашвырнула ў кусцік.
— Іржавей вось тут!
І пайшоў Даніла ў свой замшэлы кут.

А пасля? Пасля быў грозны царскі суд.
У судзе вяршылі царскія чыны.
І прысуд суровы вынеслі яны:
«У Сібір Пармона! Набунтарыў ён!
Намагаўся бурай змесці царскі трон!..»

На дарозе доўгай ланцуговы звон.
След у след за звонам — стражы-вусачы
У шнурах чырвоных. Нават і ў начы
Ад шнуроў чырвоных дзядзьку не ўцячы.

III

Жураўліны смутак не галосіць
У кустах, адплыў у Млечны Шлях.
У гумне засмужаная восень
Цюпае цапамі па снапах.

Трохі ўжо кусаецца марозік,
Зласнаваты, быдта канваір,
Шкрэбае Даніла па дарозе,
А яшчэ не блізенька Сібір.

Тут яе ні слуху і ні духу
На дарозе чорных каляін.
Не плывуць з тайгі гусіным пухам
Мігаценні лёгкія сняжын.

Тут жа не цюменскі, а тамбоўскі
Краявід, сасоннік, беразняк,
Як на Міншчыне, такія вёскі,
Як на Случчыне, такі вятрак,
У журботным полі, на пагорку,
Крыламі махае ў сіняве...
І Пармон падумаў: «Мусіць, горка,
Не салодка й тут мужык жыве?
Як і ў нас, мізэрныя палоскі,
У кудлатых межах, у траве;
Як і ў нас, абуты людзі ў лыка,
Лыкам падпяразаны іх лёс.
Ах, няма раскошы тут вялікай,
А зімой вялікі тут мароз.
Як і ў нас, зімой жывуць у хаце
Тут ягняты, козачкі, бычкі;
Як і ў нас, на лавы, на палаці
Сцелюць дым з камінка смалячкі;
Як і ў нас, пяньковаю аборай
Горкі хлеб раскройваюць спрадвек...
Матухна-Расія! Колькі бору!

Ельнікаў! Зямлі! Азёраў! Рэк!
А няма свабоды на прасторы;
Так жа, як ля Нёмана, у горы
Тут жыве працоўны чалавек.
А калі ж загонім, закапаем
Чорную нядолю ў жоўты жвір?!»

— Ну, пайшлі, кайданнікі! —
гукае,
Гоніць да Сібіры канваір.

Паўтараў у думках зноў Даніла
На чужой далёкай старане:
«Маці, маці, што ж ты нарабіла,
Што ў пакуце цяжкай нарадзіла
На пакуту горкую мяне!»

А далей, далей вядзе дарога,
Шорхлая, марозная, як звон.
Не відаць яшчэ таго астрога,
Да якога шкрэбае Пармон,

У якім зусім прыдушыць скруха
Ў цёмнай закратованай глушы...
Дальні край!.. Сібір суровым духам
Дзьме і штосьці шэпча, шэпча ў вуха,
Кратае нуду ў яго душы.
Колкая, сухая завіруха
Свішча, студзіць рукі-ледзяшы.

На нагах папрэлыя анучы,
Цяжкія лапці на нагах.
А мароз траскучы
І пякучы
Грэецца ў астрожніцкіх вусах.

Тонкія сасулькі, як свісцюлькі,
У сівой намёрзлай барадзе.

Ні страхі, ні столі, ні прытулку,
Пад віхурай злоснаю брыдзе;

То наперад бокам, то плячыма,
То грудзьмі працісне вецер ён.
Прытаміўся. Змогся. Немагчыма
Вытрываць... Трываў! Ішоў Пармон!
Супыніўся ён. Падставіў плечы
Нейкаму старэнькаму:
— Сядай!
— Ты ж — не конь?
Садзіся, недарэча!
— Не пацягнеш, братка.
— Ну, давай!
На плячах ты будзеш, як на печы.
— Дзякуй, братка. Дзякуй. Выручай.
— Бачу я: дзядок вы вельмі кволы,
А тут завіруха і мароз.

Да казённай цёмнае стадолы
Ён таго старэнькага данёс.

Канваір сказаў: — Тут заначуем.
Вам пасцель — саломы хайлукі.
Пацукоў галодных пахарчуем.
Добрае вячэры, пацукі!..

І пайшоў з халоднае стадолы
Жартаўнік вусаты, невясёлы,
У хацінку-будку на двары...

— Праўду ты казаў: я вельмі кволы,
Каб мяне стапталі камары! —
Прызнаваўся беленькі стары.—
Кроў у жылах трохі ўжо астыла,
Мала грэе, братачка, мяне.
І чакае недзе ўжо магіла
У сібірскай снежнай старане.

— Пажывём, дзядун! —
сказаў Даніла,—
Ногі не працягнем у труне.
Пажывём! Памерці ранавата.
Завірухай-бурай засвішчу!
У маёнтку нашага магната
Пеўніка чырвонага пушчу!

Пеўніка?! —
Глядзеў праз акуляры
На Данілу ён. Святлеў у твары,
Ажно пацяплела ў жылах кроў...
— Не паможа пеўнік нам, таварыш.
Трэба рэвалюцыі пажары
Распаліць у сэрцах мужыкоў;
Трэба лад царовы, ланцуговы
Зруйнаваць, каб следу не было;
Трэба запаветы Ільічовы
І душы ягонае святло
Несці ў векавечныя глухмені,
На заводы,
да сялянскіх хат,
І тады паставіць на калені
Цяжкую нядолю новы лад.
Апранём зямлёю мы сырою
Гора і кандальны перазвон;
Мы напішам сонцам і зарою
Нашай эры новае закон...

Гаварыў ён ціха, а Данілу
Акрылялі словы-перуны,
Выкрасалі гнеў, давалі сілу,
Бушавалі бураю яны.
Слоў такіх Пармон не чуў ніколі,
Слова кожнае заве, пяе...
Ранак. Валакуцца зноў паволі.
Замяло дарогу ў чыстым полі,
Заваліла гурбамі яе.

І на небе гурбы-аблачыны,
Белыя на хвоях башлыкі.
І ў Сібіры — матухна-Айчына,
Руская зямля на ўсе бакі.

Руская зіма! Мароз пякучы.
Туманок, авеяны смугой.
Белы снег. І чорная ануча
Вытыркае з снегу пад сасной.

Капануў нагою снег Даніла.
Зашчымела сэрца. Свет нямілы:
Учарнелы труп. Пажоўклы мох.
Чалавека гора паваліла,
Смерць яго ў дарозе падкасіла,
Не дайшоў астрожнік у астрог.

Не дайшоў! Ды будзе не пустая
Камера ў астрозе. Гоняць шмат...
— Ну, пайшлі! Чаго слупамі сталі?! —
Падганяе ўзброены салдат.
А Даніла кажа:
— Трэба яма
Мерцвяку. Апусцім яго ў жвір.
— У той яме ляжаш ты таксама!
Ну, пайшоў! —
лютуе канваір.
— Па касцях ідзём! —
сказаў Даніла,—
Па замёрзлых трупах у турму!
— Не бунтуй! Капай, бунтар, магілу!
У магілу я цябе турну.

Падышоў Даніла да салдата:
— Ах ты, тараканішча вусаты! —
Свой вялікі гнеў стрымаць не мог.—
Шаблю — ў ножны! Чуеш, падганяты?
Шаблю я скручу ў барані рог!

«Ах, скарэй бы ў той астрог дабрацца!» —
Думаў ён, журботаю працят.
Пройдзена дарог сібірскіх шмат.
Ад сяла сяло вёрст нейкіх дваццаць,
А бывае, вёрст за пяцьдзесят.
Ад Цюмені ў Томск вядзе дарога,
З Томска праз тайгу бяжыць яна.
Прывяла дарога да астрога.
Камера ў астрозе, як труна,
Вузкая, самотная, глухая,
Краты на зажмураным акне.
І Даніла сцішана ўздыхае:
Хоць яшчэ жывы, але ў труне.

— У труне?! —
глядзіць праз акуляры
На Данілу кволенькі стары.—
Рана пахаваў сябе, таварыш.
Вельмі рана. Так не гавары.
Грэшна паміраць нам у астрозе.
Бітва нас вялікая заве.
Пойдзема па Ленінскай дарозе...
— Дзе ён?
— У паходзе, не ў абозе,
У вялікіх клопатах жыве.
Дзень і ноч шчыруе кузня тая,
У якой куе ён ураган,
Бурай навальнічнаю гукае
Гвардыю рабочых і сялян.
Пусцім у жыццё глыбей карэнні,
Нібы дуб у родную зямлю...

Быў Даніла ў лёгкім акрыленні.
Ён сказаў: — Я слухаць вас люблю.
Вы адкуль?
— З разанскае глухмені.
— Хто вы?
— Я — рабочы... Лугавеня...

— А за што вас?

— Леніна вучэнне
Нёс народу. Сеяў прасвятленне
У дрымотнай лыкавай глушы,
Перад царскай хеўрай на калені
Я не стаў, душой не саграшыў,
Не захмарыў чыстае сумленне,
А за гэта выслалі сюды...
Ах, суды!.. Прадажныя суды!..
Пазіраў [illegible] пашанаю Даніла,
Пранікаўся ласкай да яго.
«Ну, дзядок-смаржок. А ў ім жа сіла!
Ён жа, як агонь...

Дальбог, агонь!
Ён — мудрэц! Разумна разважае.
Мудрасці ў пазыку папрашу...»
І сказаў: — Я вельмі паважаю
Вашую разумную душу.

Прызнаваўся шчыра Лугавеня:
— Сілу гартаваў у барацьбе.
Ленінскае мудрае вучэнне
Памагло...
Паможа і табе.
Ты чытаць умееш?

— Слабавата,
Дзе драбнюткіх літараў багата,
А вялікія чытаць магу.
— Памагаў ты мне ісці, араты,
Я табе таксама памагу...
Сундучок мой вельмі хітраваты,
Бомбу ў дне сакрэтным сцерагу.

— Бомбу?! —

І Даніла ў захапленні.—
Бомбай грымнем так, каб лёд растаў!..
Адшчапіў фанеру Лугавеня,
З дна другога кніжачку дастаў.

— А дзе бомба? —
хмурыцца Даніла.—
Я не бачу бомбы... Бомба дзе?
— От яна! У ёй жа тая сіла,
Што да шчасця нашага вядзе,
Тут вялікі розум Ільічовы,
Сэрца палымянага напал,
Нам гавораць ленінскія словы,
Як турнуць у бездань капітал...

Гаварыў рабочы селяніну.
Слухаў ён, у думках бачыў ён
Тлустую зямлю і лугавіну,
Новы лад і шчасце новых дзён.

Слова кожнае харошай песняй
У душу Данілаву плыло.
І, здаецца, ў той цямніцы цеснай
Ажыло турэмнае святло,
Хоць рашотка неба засланяла
Павуцінай шэрай, драцяной...
Валакліся дні. А іх нямала
Аднудзела ў камеры глухой.

Кніжку Леніна чытаў Даніла,
Прасвятляўся ленінскім радком.
Кніжка, як жывая, гаварыла,
Гаварыў сам Ленін з мужыком.

Заклікаў Ільіч да новай долі,
Быў, здаецца,
з ім Даніла ў полі,
З ім хадзіў па сцежках лугавых...
— Лугавеня!.. Родны!.. Я ніколі
Не чытаў такіх разумных кніг.
Як малітву, кнігу завучаю,
Прасвятляю кнігаю душу.
Леніна, як поле, паважаю,

Як зялёны луг...
Я дакашу
Ленінскаю Праўдай наша гора,
Засяку бяду! Я — дрывасек.
Ленін жа вядзе з дрыгвы на ўзгорак.
Ленін — самы добры чалавек!
Шчодры, як у жнівень цёплы лета,
Як у верасень даспелы сад.
Паважаю Леніна за гэта...
Лугавеня кажа:
— Вельмі рад,
Што пранік прачулаю душою
Ў Ленінскую кнігу. Вельмі рад...
— Гэ! Паўзіце з нораў! — за сцяною
Пагукаў астрожнікаў салдат.

У пазы, у паклю тараканы
Запаўзлі світальнай раніцой,
А Пармон Даніла раным-рана
Выпаўзаў на двор з нары сырой.

IV

Сячэ, пілуе...
Кедры і яліны
Тралюе з лесу да ракі, на рум...
Плыве, плыве шнурочак жураўліны,
Наматвае на крылы горкі сум
Данілавай душы. Глядзіць у просінь,
У думках пералётных птушак просіць:
«Паклон мой перадайце, журавы,
Нёману, закуткам баравым!
Маці хай у горы не галосіць,
Скажыце ёй, што я жывы, жывы!
Скажыце маёй роднай Беларусі,
Яе азёрам — сонечным вачам,—
Што бурай навальнічнаю вярнуся,
Акрылены натхненнем Ільіча.

Мы зможам гора нашае пакласці
Бунтарнай сілай у зямлі сырой,
Мы абвянчаем шчыра наша шчасце,
Пажэнім з нашай доляй маладой.

Ім рэвалюцыя сыграць вяселле
Паможа ў Петраградзе, на Няве,
Вялікі Ленін нам дарогу сцеле,
Турботамі народнымі жыве.

Яму душой і сэрцам прысягаю
У вернасці, у шчырасці маёй.
Я сонца рэвалюцыі гукаю,
Абняцца я хачу з яго вясной!»

І дагукаўся ён, Пармон Даніла,
Яго з турэмнай цемры і тугі
Узнеслі ў сонца яснае на крылах
Вялікага Кастрычніка сцягі.

V

Ён уздымаў іх, сеяў буру,
Змятаў замшэлы царскі лад.
Нязломнай волі дыктатуру
Пранёс Кастрычніка салдат.

Не пану, а сабе траву ён косіць,
Не пану, а сабе зямлю арэ!
Пяюць яму даспелыя калоссі,
Заве даспелы садзік на дварэ:

— Заходзь! Адчыненыя дзверы
Табе, майму гаспадару!
Я слуцкія даспеліў бэры,
Табе іх шчыра падару.

Прыжыўся хлеб у новай хаце.
І новы конь жыве ў хляве...

Данілава старая маці —
Памаладзелаю жыве,

Калыша ўнука і гадуе
На козаччыным малачку,
Сваю нявестку маладую
Шануе, як сваю дачку.

А гэта радасна Данілу,
Атулен шчасцем чалавек.
Загнаў Кастрычнік у магілу
Царовы гнеў, турэмны здзек!

А сонца ўзыдзе, а ці зойдзе —
Святло на сэрцы, на душы...
Ён у калгас дарогу знойдзе,
Не грэбляй, пойдзе па шашы!

# ЗМЕСТ

## ВЕРШЫ

П. Прыходзька. *Жывы нятленнай працы плён* 3
Сосны ў жыце 6
Я вясёлкай апрануўся 8
Спатканне з юнацтвам 10
Хай бы явай стаў сон 12
А чаму зраслася кладка? 14
Вясновая спрэчка 16
Згаварыліся — заручыліся 18
Сілу лес яму дае 19
Жураўліха-хлусіха 21
Добры лось 23
Пярун 24
Песня жняі 25
А ў полі сасна 26
Хітры заяц 28
Ажаніўся марозік 29
Прызнанне ў вернасці 30
Гарманіст 31
Рэчка спыніла спрэчку 33
Жонка мужа чакала 34
Вернасць лебядзіная 36
Вясновая пераклічка 37
Размова з паэтам 39
Прызнанні юнака 41
Пакуты і радасці слёзы 42
Лесарубы 43
Балтыйскае мора 45
Сказалі гусі мне 46
Няма старой бярозы 47
Абдымаюся з Масквою 48
Мая жар-птушка 49
Мацярынскі запавет 50

Як прыехаў сын у госці 51
Усемагутны чалавек 53
Памыліўся чорны воран 54
Ён і яна 55
Дваццаты век 56
Ключы-чарадзеі 57
Зноў бярэзнік пяе 60
Сініцы 62
Піліп з канапель 64
Новай долі зара 66

ПАЭМЫ

Ён з Бесядзі бачыў Гранаду 68
Пармон 92

**Бялевіч А.**

Б 99 Сосны ў жыце: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 112 с.

У пер.: 75 к.

Паэтычнае слова Антона Бялевіча гучыць на ўвесь голас. Размову з чытачом паэт працягвае і ў гэтай, на жаль, пасмяротнай кнізе, дзе акрамя лірычных вершаў змешчаны дзве паэмы: «Ён з Бесядзі бачыў Гранаду», якая прысвечана народнаму паэту Беларусі А. Куляшову, і «Пармон», у якой аўтар паказвае шлях простага чалавека працы, які стаў салдатам рэвалюцыі.

ББК 84 Бел 7

Б $\frac{70403-091}{М\ 302(05)-80}$ 39—80

Бел 2

Антон Петрович Белевич
СОСНЫ В ЖИТЕ
Стихи и поэмы
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак В. П. Жыжэнка. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Л. С. Зіза.

ІБ № 666

Здадзена ў набор 25.10.79. Падп. да друку 18.03.80. АТ 10587. Фармат 75×90$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,37. Ул.-выд. арк. 4,16. Тыраж 6000 экз. Зак. 643. Цана 75 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041 Мінск, Ленінскі праспект, 79.